# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С.-ГАСПАДАРКІ



№ 7

ЛІПЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ



### Калгаснае і саўгаснае будаўніцтва.



### Жывёлаводзтва і кармовае пытаньне



### Пра выстаўку

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 7 (13) | Ліпень | 1930 г.

## Чарговыя задачы ў падрыхтоўцы да ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі

Вясновая пасеўная кампанія бягучага году праходзіла ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і вялікага пералому ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі па сацыялістычнаму шляху. Прыкладам гэтага сьведчыць тое, што да севу на калектыўных пачатках прыступілі да 12 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Сеў на калектыўных пачатках разгорнуты на плошчы каля 16 проц. усяе сельска-гаспадарчай тэрыторыі БССР, а разам з саўгасамі каля 18—19 проц. У выніку такога тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы, трэба спадзявацца, што саўгасы і калгасы к часу ўборачнай кампаніі перакрыюць з лішкам таварную частку прадукцыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці, якая раней знаходзілася ў кулацкіх гаспадарках. Такім чынам рабочая кляса ў саюзе з



Работніца заводу за вырабам с.-г. машын для калгасаў

бядняцка-серадняцкім сялянствам, пад кіраўніцтвам партыі, на справе вырашае замену вытворчасьці кулака — вытворчасьцю саўгасаў і калгасаў.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва тлумачацца выключна тым, што пад Ленінскім кіраўніцтвам партыі ўсьлед за батрацка-бядняцкімі масамі, зразумеўшы перавагі буйнай аграмаджанай гаспадаркі, пайшлі серадняікі, што цалкам пацьвярджае магчымасьць ва ўмовах пралетарскай дыктатуры аб'яднацца дзесяткам тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з распыленых, дробных, малатаварных у буйную сацыялістычную сельскую гаспадарку.

Побач з посьпехамі калгаснага будаўніцтва трэба адзначыць і тое, што сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі вытварае сеў з большым пад'ёмам, большай арганізаванасьцю. Прыкладам гэтаму можа служыць тое, што на 20 мая засеяна саўгасамі 66 проц., калгасамі і індывідуальнымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі—39 проц. у адносінах для пляну засеву.

Дабіўшыся першых посьпехаў у будаўніцтве калектыўнай сельскай гаспадаркі і правядзеньня бальшавіцкага севу, мы павінны паставіць зараз практычныя задачы да ўборкі вытвараных пасеваў, а таксама і да пасьпяховага правядзеньня асеньняга севу.

Першыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва тлумачацца яшчэ і тым, што партыя з усёй сілай дабівалася правядзеньня Ленінскага прынцыпу ў пытаньнях калектывізацыі, вядучы рашучую барацьбу з правым ухілам і левымі загібамі.

Асноўнымі задачамі ў падрыхтоўцы да ўборкі і асеньняга севу, трэба паставіць:

а) Усямернае арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне існуючых калгасаў, асабліва арганізаваных да вясеньняй пасеўнай кампаніі і, на гэтай базе, няўхільнае замацаваньне дабраахвотнасьці ўваходу ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, узмацніўшы далейшы рух калгаснага будаўніцтва з ахопам да пачатку асеньняга севу арыентыровачна 20 проц. усіх двароў.

б) Далейшая арганізацыя прасьцейшых вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў і каапэраваньня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, з уцягненьнем у вытворча-каапэрацыйныя аб'яднаньні ня менш 85 проц. усіх сялянскіх двароў, не ўвайшоўшых пакуль што ў калгасы.

в) Пашырэньне пасеўнай плошчы пад азімымі культурамі на 4 проц. альбо 55.000 *га*, прычым пашырэньне засеўнай плошчы павінны праходзіць у асноўным за кошт павялічэньня ўцягненьня ў засеў новых цалінных зямель, раскарчовак 30.000 *га*, аблогу 10.000 *га* і мэліараваных балотных зямель—15.000 *га*.

г) Сваячасовая арганізацыя к правядзеньню ўборачнай кампаніі набывае ў гэтым годзе асаблівае значэньне пры наяўнасьці ў асобных выпадках недахопу працоўнай сілы ў калгасах і недастатковага забясьпечаньня складанымі машынамі сельскай гаспадаркі.

д) Забясьпечаньня падвышэньня ўраджайнасьці ў саўгасах да 45 проц., у калгасах да 35 проц. і ў індывідуальных гаспадарках да 25 проц. у параўнаньні да ўраджаю выходнага году пяцігодкі.

е) Ажыцьцяўленьне ў масавым маштабе сіласаваных кармоў, з мэтаю вырашэньня кармовай праблемы, якая зьяўляецца асновай для разьвіцьця ўсіх галін жывёлагадоўлі.

ж) Пытаньне жывёлагадоўлі, асабліва малочнай жывёлы і сьвіней павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсіх зямельных і каапэрацыйных органаў.

з) Ня малае значэньне набывае пытаньне спэцыялізацыі гаспадарак і падрыхтоўкі плошчы для будучай вясеньняй пасеўкампаніі, як, напрыклад, садоўніцтва, гародніцтва і г. д.

Выходзячы з гэтых асноўных задач, трэба своечасова завезьці ўборачныя с.-г. машыны і прылады да асеньняй пасеўкампаніі, вызначаўшы канчатковы завоз уборачных машын не пазьней 25-га чэрвеня.

Для забясьпечаньня конскай цягавай сілай асобных калектыўных гаспадарак, арганізаваных галоўным чынам з батрацкіх і бясконных бядняцкіх гаспадарак, трэба нарыхтаваць ня менш 1.500 коняй, якіх перадаць да пачатку ўборачнай і пасеўнай кампаніі калгасам.




Рыхтуюць жняяркі для жітва на машына-трактарнай станцыі

Трэба каапэрацыйным сыстэмам, савецкім гаспадаркам і трэстам зьвярнуць максымальную ўвагу на пытаньні правільнай арганізацыі цягавай сілы, набольш рацыянальнага скарыстаньня маючыхся коняй, трактароў, а таксама і складаных с.-г. машын, бо ад правільнай арганізацыі цягавай сілы і поўнай нагрузкі складаных с.-г. машын магчыма будзе пасьпяхова справіцца з задачамі ўборкі і пасеву.

Ня малае значэньне пры правядзеньні ўборачнай кампаніі і асеньняга пасеву мы павінны надаць правільнай арганізацыі працы ў калгасах і саўгасах. Трэба практычна правесьці ў жыцьцё дырэктывы аб пераводзе ўсіх прац на аплату зьдзельна і вытвараць разьлікі па колькасьці і якасьці затрачанага часу.

Усім вядома, што ў вясеньнюю пасеўкампанію мясцовыя арганізацыі ў пагоні за колькасным паказчыкам калектывізацыі не зьвярнулі

дастатковай увагі пытаньням агратэхнічных мерапрыемстваў. Трэба гэты прабел у васеньнюю пасеўкампанію зьнішчыць. Трэба дабіцца засеву па палепшаных папарах ня менш 600.000 *га*, засеў гатунковым насеньнем ня менш 96.000 *га*, правесьці ачыстку насеньняга матар'ялу па саўгасах і калгасах на 100 проц. і ў індывідуальных гаспадарках на 90 проц., пры чым ня менш 50 проц. заданьня прапусьціць праз трыер; правесьці пратручваньне ўсяго насеннага матар'ялу азімай пшаніцы. Выходзячы з налічча радавых сеялак, правесьці радавы пасеў на плошчы 100.000 *га*, у тым ліку ў калгасах 70.000 *га*, саўгасах 10.000 *га* і каапэрацыйн. аб'яднаньнях 20.000 *га*.

Ужо папярэднія даныя правядзеньня веснавой кампаніі па вапнаваньні глебы даюць права зрабіць вынік, што гэтая праца праведзена нездавальняюча, таму патрэбна дабіцца выкананьня гадавога пляну ў 75.000 *га* за кошт асеньняга пасеву і зяблевай воранкі.

Улічваючы вялікае значэньне, якое мае ўборачная і асеньняя пасеўная кампанія, трэба з боку мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый прыняць наступныя меры: давесьці плян да саўгасу, калгасу, асобнай вёскі і двара не пазьней 15-га чэрвеня г. г., абмеркаваўшы ўсе пытаньні на шырокіх вытворчых нарадах савецкіх і калектыўных гаспадарак, на прызыдыумах і пленумах сельскіх саветаў і шырокіх сходах бядняцка-серадняцкіх мас. Трэба асеньнюю ўборку і пасеўную кампанію паставіць у ня менш баявы стан, чым веснавая пасеўная кампанія. Трэба максымальная мабілізацыя рабочых калектываў, саўгасаў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з тым, каб уборку і пасеў правесьці па-бальшавіцкі, памятуючы, што асеньняя кампанія зьяўляецца адначасова і кампаніяй для падрыхтоўкі будучага гаспадарчага году.

У час правядзеньня ўборачнай і пасеўнай кампаніі лёзунг сацыялістычнага спаборніцтва павінен стаць асноўным лёзунгам у вырашэньні ўсіх задач гаспадарчага будаўніцтва. Ён павінен знайсьці адбітак у пытаньні ўборкі ўраджаю, лепшага скарыстаньня с.-г. машын, цягавай сілы, своечасовай уборкі і засеву, разьвіцьця жывёлагадоўлі, а таксама пры вырашэньні пытаньня сіласаваньня кармоў.

Уборачная і асеньняя пасеўная кампанія будуць праходзіць ва ўмовах абвастронай клясавай барацьбы. Гэта павінна быць загадзя ўлічана ўсімі арганізацыямі, ні на адну хвіліну не павінна быць запамятавана задача правільнай арганізацыі нашай апоры ў вёсцы, падгатоўка калгасьнікаў, батрацтва і беднаты дзеля рашучага адпору ўсякага роду кулацкім вылазкам.

Прыдаючы вялікае значэньне пытаньню ўборкі вясеньняга севу і калектывізацыі, трэба спадзявацца, што максымальнай мабілізацыяй ўвагі шырокіх партыйных арганізацый, рабочых арганізацый з задачамі справімся і створым у сельскай гаспадарцы сапраўдную сыравінную базу для сацыялістычнай прамысловасьці ў сельскай гаспадарцы.

**К. Масюкоў.**

---

# Прыкладная рабочая праграма і рабочы плян уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі ў калгасах БССР

(*Зацьверджана Праўленьнем Белкалгасцэнтру 2-га чэрвеня 1930 г.*)

Пры правядзеньні ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі 1930 г. належыць цалкам выкарыстаць практыку арганізацыі калектыўнай працы ў калгасах у час веснавой пасеўнай кампаніі. Таму перад прапрацоўкай пляну ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі па сканчэньні веснавое сяўбы, кожны колгас на агульным сходзе і вытворчых нарадах павінен самым дасканалым чынам праверыць і падагуліць работу па веснавой сяўбе, разгарнуўшы шырокую самакрытыку ўсіх недахопаў у правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі ў калгасе і вызначыць шляхі да іх зьнішчэньня.

Асабліва неабходна абмеркаваць недахопы, вынікаючыя з няправільнага разьмеркаваньня работ, беспарадачнай расстаноўкі на работу людзей, інвэнтару, выпадкі нераспарадчасьці органаў кіраўніцтва калгасаў, безадказнасьці, недысцыплінаванасьці асобных калгасьнікаў і г. д. (нявыхады на работу, невыкананьне норм выпрацоўкі, дрэнны догляд за жывёлай і г. д.).

Пры распрацоўцы пляну надыходзячай уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі ў калгасах у першую чаргу трэба сканцэнтраваць увагу на арганізацыі догляду за пасевамі (поліва, прапашка, абсыпка), а таксама сваячасовай уборцы збожжавых культур і сенажацяй, адначасова ня ўпускаючы з-пад увагі падрыхтоўкі папару, уборкі тэхнічных культур, караньклубняплодаў, пасеву азімых і інш.

Не пазьней 25-га чэрвеня кожны калгас павінен скласьці рабочы плян па ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі. Плян павінен быць падрабязна абмяркован на вытворчых нарадах, агульных сходах калгасьнікаў і на сходах брыгад з тым, каб кожны калгасьнік ведаў, як і ў якія тэрміны будзе праводзіцца ўборачная і асеньняя пасеўная кампанія і які ўдзел ён і яго сям'я будзе прымаць у гэтай рабоце. Яшчэ да пачатку ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі трэба правесьці падрыхтоўку людзей, асабліва тых, якія будуць працаваць на складаных машынах (жнявярках, снопавязалках, малатарнях, сеялках і г. д.). Уборка азімых пасеваў 1929 г., якія знаходзяцца ў паасобным карыстаньні членаў калгасаў, пры іх добраахвотнай згодзе на гэта— праводзіцца сіламі калгасу і ўваходзіць у агульны плян калгасу.

## 1. Складаньне пляну

Плянам трэба прадугледзіць наступнае: а) тэрміны пачатку і сканчэньня ўсіх работ па кожнай культуры асобна; б) наяўнасьць у калгасе людзкой і цягавай сілы, с.-г. машын і прылад; в) вызначыць нормы выпрацоўкі для інвэнтару, цягавай сілы і людзей; г) улічыць наяўнасьць і патрэбу ў людзях, цягавай сіле і с.-г. інвэнтару, выявіць недахоп або лішкі іх; д) утварыць разьбіўку ўсёй пасеўнай плошчы на асобныя вучасткі (у буйных колгасах); е) у выпадках далёкай адлегласьці палёў ад паселішчных пунктаў, арганізаваць дастаўку на месцы работы харчоў для людзей і кармоў для жывёлы; ж) разь-

біць усю людзкую, цягавую сілу, с.-г. інвэнтар на брыгады; скласьці паасобна брыгады: па доглядзе за пасевамі, уборцы ўраджаю і сенажацяй, абмалоце, падрыхтоўцы папару і пасеву азімых; і) прымацаваць брыгады да пэўных вучасткаў і даць кожнай брыгадзе заданьне для выкананьня на ўвесь час уборачных і пасеўных работ, у якім указаць: а) якую работу трэба выканаць і дзе (на якім вучастку); б) пачатак і сканчэньне работ; в) нормы выпрацоўкі; г) сьпіс вылучаемых людзей, цягавай сілы і с.-г. інвэнтару.

Максымальна нагрузіць жывы і мёртвы с.-г. інвэнтар, беручы ў аснову прыкладныя нормы выпрацоўкі для калгасаў (гл. брашуру „Арганізацыя і аплата працы ў калгасах“).

## 2. Рамонт і набыцьцё с.-г. інвэнтару

Пераглядзець і адрамантаваць да пачатку работ увесь уборачны, глебаапрацоўчы і пасеўны інвэнтар і транспарт, а таксама сваячасова набыць і даставіць нехапаючыя машыны і прылады. Трактары і машыны павінны быць цалкам забясьпечаны патрэбнай колькасьцю гаручага і змазачнага матар'ялу, а таксама павінна быць арганізавана сваячасовая іх дастаўка. Праўленьне павінна сваячасова забясьпечыць машыны запаснымі часткамі, асабліва тымі, якія хутка зношваюцца, а таксама снопавязальным шпагатам. Неабходна адрамантаваць усю збрую і прыстасаваць яе да рабочае жывёлы, сабраць і наладзіць усю існуючую тару. Праўленьне калгасу павінна забясьпечыць сваячасовае атрыманьне і дастаўку мінэральных угнаеньняў.

## 3. Догляд за пасевамі

Ураджай прапашных культур, бульбы, караньплодаў і інш., а таксама тэхнічных культур значна залежыць ад дастатковага і правільнага догляду за пасевамі, як поліва, абсыпка, прапашка, прарэджваньне і інш. Поліва, прапашку і абсыпку прапашных культур трэба ўтвараць пэрыядычна і з такім разьлікам, каб не дапушчаць разьвіцьця пустазельля. Для выкананьня гэтай работы арганізаваць спэцыяльныя рабочыя брыгады, шырока выкарыстоўваючы пры гэтым жанчын і падросткаў.

Арганізаваць ахову пасеваў ад патраў, вылучыўшы спэцыяльных вартаўнікоў. Арганізаваць абкошваньне меж і інш. мерапрыемствы па барацьбе са шкоднікамі.

## 4. Уборка сеяных траў і сенажацяй

а) Дабіцца перад сельсаветамі і земорганамі адводу сенажацяй не пазьней 20 чэрвеня г. г.

б) Арганізаваць ахову сенажацяй ад патраў.

в) Уборку сеяных траў і сенажацяй правесьці ў пэрыяд найбольшага травастою, не дапушчаючы перасьпяваньня травы і выгараньня мурагу.

## 5. Падрыхтоўка і ўборка збожжавых культур

Работа па ўборцы збожжа павінна быць праведзена ў карацейшы тэрмін, ні ў якім выпадку нельга дапускаць перастойваньня збожжа, асабліва неабходна пасьпяшацца з уборкай азімых, яравой пшаніцы

і ячменю, каб унікнуць абсыпкі, а таксама забясьпечыць сваячасовасьць азімага пасеву. Калгасы павінны дабіцца праз земорганы і с.-г. каапэрацыю правядзеньня сваячасовай праверкі якасьці і гатунковасьці сваіх сэлекцыйных і гатунковых пасеваў. Вучасткі, прызнаныя гатунковымі, павінны быць выкарыстаны выключна для насенных мэт і ўбірацца асобна ад астатніх. У калгасах, дзе ёсьць толькі радковыя пасевы, трэба вызначыць вучасткі з лепшым ураджаем для выкарыстаньня іх на насеньне, на выпадак неатрыманьня гатунковых пасеваў, а таксама пры абмалоце і сартаваньні адабраць лепшае, найбольш паўнаважкае, зерня для насеньня. У тых выпадках, калі ў калгасах пры ўборцы ня будзе хапаць снопапязальнага шпагату, неабходна выкарыстоўваць снопавязалку як жнявярку (лобагрэйку).

### 6. Малацьба збожжавых

Малацьба збожжа павінна рабіцца непасрэдна за ўборкай. Азімыя, вызначаныя для пасеву, і ўсё гатунковае жыта абмалочваюцца ў першую чаргу, распачаўшы іх абмалот там, дзе будзе магчыма, непасрэдна на палёх. Праўленьне калгасу павінна паклапаціцца выбарам і падрыхтоўкай месца для такоў пры абмалоце на полі, а таксама падрыхтаваць гумны і хлявы для складаньня снапоў у сьціrты, ачысьціўшы ток і зрабіўшы належны подсьціл для сьціртаў. Адначасова з малацьбой утвараецца ачыстка і сартаваньне збожжа. Пры малацьбе і ачыстцы неабходна сачыць за тым, каб ня было зьмешваньня яравых і азімых культур і гатунковых са звычайнымі. Прывесьці ў парадак збожжахавальнікі, утварыць загадзя іх дэзынфэкцыю. Пасьля першага абмалоту інфармаваць усіх калгасьнікаў аб сярэднім ураджаі з гэктара, а таксама аб мяркуемым зборы збожжа ва ўсёй гаспадарцы. На кожным таку пры абмалоце ў складзе брыгады павінны быць вылучаны адказныя прыёмшчыкі абмалочанага збожжа, на абавязкі якіх ускладаецца дакладны ўлік абмалочанага збожжа па гутунках. Аб колькасьці абмалочанага збожжа кожны дзень даюцца весткі ў праўленьне калгасу. Ні ў якім выпадку не дапушчаць ссыпку ў сьвірны сырога збожжа. У выпадку-ж атрыманьня сырога збожжа яго неабходна ссыпаць такім парадкам, каб можна было свабодна ўтвараць перашуфлеўваньне, зрабіўшы пры першай магчымасьці асушку гэтага збожжа. Мякіна салома і інш. адыход старанна ўбіраюцца і складаюцца ў часе малацьбы. Па сканчэньні абмалоту праўленьне разам з актывам калгасу павінна заслухаць на пасяджэньні вынікі абмалоту і колькасьць сабранага збожжа запісаць у пратакол.

### 7. Ахова ад агню

Каб унікнуць магчымасьці пажару ад неасьцярожнасьці з агнём, а таксама ад магчымых падпалаў клясавага ворага, праўленьне калгасу абавязана: 1) адрамантаваць пажарны абоз, а там, дзе яго няма, сумесна з сельсаветам арганізаваць; 2) прапрацаваць разам з сельсаветам супроцьпажарныя мерапрыемствы; 3) вылучыць дзяжурных людзей для назіраньня і аховы. Распрацаваць спэцыяльныя супроцьпажарныя меры, у прыватнасьці забараніць курэньне на таку, на пэўнай адлегласьці разводзіць агонь, увесьці штрафы за парушэньне супроцьпажарных мер, аж да выключэньня з калгасу; 4) мець на таких пастаяны запас вады. У мясцох вялікага скапленьня збожжа ўстанавіць пастаяннае дзяжурства супроцьпажарнай аховы, умовіўшыся аб гэтым з сельсаветам. Праўленьне калгасу павінна прыняць крокі да

стварэньня пажарных дружын з калгасьнікаў. Арганізацыя і назіраньне за правядзеньнем у жыцьцё супроцьпажарных мерапрыемстваў ускладаецца асабіста на старшыню калгасу, або спэцыяльна вылучанага члена праўленьня.

### 8. Падрыхтоўка папару

а) Узьняты папар трымаць у чыстым выглядзе, утвараючы пэрыядычна яго баранаваньне ў мэтах зьнішчэньня пустазельля;

б) своечасова вызваліць заняты папар ад пасеваў і зараз-жа яго заараць;

в) забясьпечыць своечасовае вапнаваньне і тарфаваньне глебы, вызначыўшы для гэтай мэты пэўныя вучасткі і арганізаваўшы загатоўку і дастаўку вапны і торфу ў гаспадарку.

### 9. Уборка тэхнічных і прапашных культур

а) У мэтах павышэньня якасьці валакна тэхнічных культур (ільну і канапель) не дапушчаць іх перасьпяваньня;

б) пры уборцы бульбы і караньплодаў асаблівую ўвагу зьвярнуць на ўважлівую ачыстку бульбы і караньплодаў ад бацьвіньня і гразі (арганізаваць сартаваньне бульбы пры яе захаваньні). Ссыпку бульбы і караньплодаў у капцы і падвалы ўтвараць у сухім выглядзе, добра прыкрываючы капцы (саломай, лістам і зямлёй);

в) падрыхтаваць ільна-мачыльныя ямы, ільна-апрацоўчыя машыны.

### 10. Пасеў азімых і зябленьне

а) Абмеркаваць і вырашыць парадак складаньня насенных фондаў для членаў калгасаў неабагуленых пасеваў для азімага пасеву, вызначыўшы для кожнага члена пэўную норму і тэрміны здачы насеньня ў фонд калгасаў;

б) забясьпечыць максымальнае пашырэньне пасеўнай плошчы пад азімыя культуры за лік новых зямель (распашка хмызьнякоў, выганаў і інш.);

в) скарыстаць усе магчымасьці да ўтварэньня і пашырэньня радковай сяўбы шляхам максымальнай нагрузкі радковых сеялак, якія ёсьць, набыцьця новых і скарыстаньня сеялак бліжэйшых калгасаў;

г) пасеў утварыць адсартаваным насеньнем з лепшых гатункаў збожжа, скарыстаўшы ўсе магчымасьці да максымальнага ўвядзеньня і пашырэньня гатунковага пасеву;

д) зябленьне, а таксама лушчэньне глебы павінны ўтварацца па магчымасьці зараз-жа пасьля ўборкі збожжавых і ў разьмеры плошчы патрэбнай для пасеву яравых наступнага году. Пры зябленьні павінна ўтварацца вапнаваньне і тарфаваньне глебы пад яравыя 1931 г.

### 11. Кармовае пытаньне

а) Своечасова скончыць пабудову сіласных ям і веж;

б) забясьпечыць своечасовую загатоўку сіласнага матар'ялу і ўтварыць закладку сіласу;

в) зрабіць паверхновае паляпшэньне сенажацяй (баранаваньне, зрэзка куп'я, ачыстка ад хмызьнякоў);

г) правесьці ўспашку для карэннага паляпшэньня сенажаці;

д) скласьці разьлікі патрэбнасьці грубых кармоў і подсьцілкі для жывёлы на стойлівы пэрыяд і вызначыць папаўненьне недахвату, калі гэткі будзе.

## 12. Садоўніцтва і гародніцтва

а) Арганізаваць правільны догляд і ахову саду, а таксама падрыхтоўку да рэалізацыі ўраджаю (загатоўка і ўстаноўка падпор для дрэў, падрыхтоўка скрынь для пладоў і заключэньне дагавароў для рэалізацыі пладоу);

б) падрыхтоўка плошч для закладкі новых садоў і падсадкі старых;

в) падрыхтоўка хавальнікаў для гародніны, а таксама тары, арганізацыя пераапрацоўкі і збыту гародніны.

## 13. Грамадзкія мерапрыемствы

Пры складаньні пляну ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі ўлічыць неабходнасьць аказаньня дапамогі бядняцкім і серадняцкім індывідуальным гаспадаркам. Уборачную кампанію і асеньнюю сяўбу праводзіць мэтадам сацыялістычнага спаборніцтва як паміж калгасамі, так і унутры калгасаў паміж асобнымі брыгадамі і групамі, а таксама між калгасамі і саўгасамі, арганізаваўшы ўдарныя брыгады з актыву калгасьнікаў, камсамольцаў і г. д. Асноўнымі ўмовамі для сацспаборніцтва могуць зьяўляцца: а) правільны і своечасовы догляд за пасевамі, б) хуткасьць уборкі, в) якасьць уборкі, г) хуткасьць і якасьць малацьбы, д) хуткасьць і якасьць засеву азімых і г. д. Перад пачаткам работ абавязкова робіцца праверка гатоўнасьці калгасу да ўборкі, малацьбы і пасеву. Брыгадзірам правяраецца гатоўнасьць сваёй брыгады. Праўленьнем—гатоўнасьць усіх брыгад, з рэвізійнай камісіяй з уцягненьнем калгаснага актыву—гатоўнасьць праўленьня.

Кожны брыгадзір штодзенна паведамляе праўленьню аб выкананай яго брыгадай рабоце. Праўленьне калгасу ў сваю чаргу павінна ставіць у вядомасьць усіх членаў калгасу аб ходзе ўборкі і абмалоту, а таксама падрыхтоўцы пасеву азімых, дзеля чаго яно ў вольныя ад работы часы, прыкладна, праз 5 дзён, знаёміць калгасьнікаў з ходам работ і становішчам работы паасобна ў добра і дрэнна працуючых брыгадах. У часе ўборачнай і пасеўнай кампаніі ўсе члены праўленьня і рэвізійнай камісіі калгасаў павінны быць прымацаваны да важнейшых вучасткаў работ і стала знаходзіцца пры іх, прымаючы непасрэдны ўдзел у рабоце.

Веснавая пасеўная кампанія, зьяўляючыся першай кампаніяй масавай калектыўнай сяўбы, суправаджалася радам сур'ёзьнейшых недахопаў у рабоце як асобных калгасаў, так і калгасных аб'яднаньняў. Надыходзячая ўборачная і асеньняя пасеўная кампанія разгортваюцца пры наяўнасьці ўжо набытай практыкі. Таму павінны быць павышаны патрабаваньні большай арганізаванасьці, выразнасьці работы і адказнасьці за выкананьне ўскладаемых задач як у адносінах да ўсіх калгасаў, груп калгасьнікаў, кожнага калгасьніка, так і калгасных аб'яднаньняў. Усе калгасьнікі павінны яскрава прадстаўляць выключную важнасьць надыходзячай уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі ў справе ўзмацненьня калгаснага руху і не забываць аб тым, што клясавы вораг—кулак імкнецца прарваць асобныя вучасткі сацыялістычнага будаўніцтва.

Дружнай арганізаванай працай калгасьнікаў, умелай садзейнасьцю і кіраўніцтвам з боку калгасных арганізацый, лепшым правядзеньнем уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі—замацуем калгасы і дамо рашучы адпор клясаваму ворагу—кулацтву.

*Увага.* Формы рабочага пляну зараз друкуюцца Белкалгасцэнтрам.

# За бальшавіцкую ўборачную і асеньнюю пасеўную кампанію



Вясеньняя с.-г. кампанія ў асноўным закончана. Посьпехі яе будуць залежаць ад ступені забясьпечаньня далейшае барацьбы за якасныя паказчыкі работы: высокі ўраджай, высокую вытворчасьць усіх галін, высокую вытворчасьць працы, нізкі сабекошт прадукцыі, і наколькі своечасова і дабраякасна праведзена ўборачная кампанія. Асеньняя с.-г. кампанія будзе праводзіцца ва ўмовах далейшага абмежаваньня капіталістычных тэндэнцый кулацтва і ліквідацыі яго як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі. Посьпех правядзеньня вясеньняга севу 1931 г. і сёлетняя ўборачная асеньняя с.-г. кампанія зьяўляюцца адказнейшымі гаспадарчымі задачамі.

Падрыхтоўка і правядзеньне ўборачнай кампаніі павінна безадкладна стаць у цэнтры сапраўды штодзеннае ўвагі ўсяе работы адміністрацыйнага складу саўгасаў, партыйных ячэек, прафсаюзных арганізацый і ўсяе грамадзкасьці саўгасаў. Якія-ж задачы стаяць перад саўгасамі „Сьвінаводу“ ў гэтай кампаніі.

1) Замацаваньне на справе спэцыялізацыі гаспадарак па шляху прамысловае сьвінагадоўлі.

2) Рашучае ўзбуйненьне саўгасаў на грунце пастановы СНКБ аб гэтым.

3) Прыстасаваньне севазваротаў да максымальнага атрыманьня кармоў у гаспадарках, асабліва сакавітых.

4) Рашучае пашырэньне пасеваў азімае вікі як для кармоў, гэтак і на насеньне.

5) Працяг рашучай барацьбы за высокія ўраджаі як яравых, гэтак і забясьпечаньне павышэньня ўраджаю азімых. Працяг ня менш упартай барацьбы за ўсе якасныя паказчыкі работы: зьніжэньне сабекошту, павышэньне вытворчасьці сьвінагадоўлі, за высокую вытворчасьць працы і інш.

6) Стопроцантнае выкарыстоўваньне ў гаспадарках мэханічнай і конскай цягавай сілы і складанага інвэнтару.

7) Своечасовая і добраякасная ўборка ўсіх культур.

Уборка ўсіх сенажацяй, незалежна ад іх якасьці, павінна быць праведзена выключна гаспадарчым спосабам, ніякія здачы з часткі і продаж на кораню дазволены быць ня могуць.

8) Актыўная падрыхтоўка к вясеньняй с.-г. кампаніі з практычным правядзеньнем усіх мерапрыемстваў, якія будуць забясьпечваць посьпех яе правядзеньня.

9) Больш шырокая, актыўная і высокай якасьці дапамога саўгасаў у далейшай сацыяльна-тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, г. зн. замацаваньню арганізаваных калгасаў і далейшай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

10) Рашучая і сапраўды масавая барацьба са стратамі ва ўсіх галінах савецкіх гаспадарак.

Саўгасы „Сьвінаводу“ павінны выканаць праграму будаўніцтва больш чым на чатыры мільёны. Праводзіць яе прыходзіцца ва ўмовах поўнага адсутнічаньня будаўнічых матар'ялаў, тэхнічных кадраў і надзвычайнай загружанасьці іншымі гаспадарчымі работамі. Відавочна, што ажыцьцявіць яе можна толькі пры сапраўднай самаахвярнай напружанасьці кіраўнічага пэрсоналу, рабочых калектываў і ўсіх грамадзкіх арганізацый. Азнаямленьне з ходам падрыхтоўкі на мясцох паказвае на незразуменьне шмат кім гістарычнасьці адказных задач арганізацыі фабрык мяса, ускладзеных на саўгасы „Сьвінавода“ партыяй і ўрадам. Працягваецца ранейшы самацёк, расхлябанасьць, не мабілізаваны рабочыя калектывы. Асобныя дырэктары саўгасаў змазваюць дрэнную падрыхтоўку, супакойваючы сябе тым, што „лес ёсьць у лесе, а цэгла на цагляных заводах“. Фактычна яшчэ амаль ніхто не прыступіў непасрэдна да практычнае працы па новай будаўнічай праграме будаўніцтва сьвінарнікаў. Гэтаму павінен быць паложан канец — трэба забясьпечыць новыя, сапраўды, ударныя тэмпы разгортваньня будаўніцтва. Белкалгасбуд, нарэшце, павінен прыняць на сябе будаўніцтва.

Тэзысамі Якаўлева к XVI зьезду ЎсеКП(б) „Сьвінавод“ ужо атрымаў нарад на здачу таварных падсьвінкаў (400 тысяч у 1931 г. 3 мільёны ў 1932 г. і 7 мільёнаў у 1933 г.). Гэта патрабуе фарсаванай арганізацыі стад саўгасаў на справе.

У гэтым годзе, акрамя ўласных сьвінаматак, што ёсьць у саўгасах, кантора Саюзмяса па генэральнаму дагавору павінна перадаць 15.000 сьвінаматак. У бліжэйшыя тыдні пачнецца значны прыліў сьвіней у саўгасы як з адкормачных пунктаў, гэтак і з саўгасаў, якія не ўваходзяць у сетку „Сьвінавода“.

Посьпех у гэтай рабоце ляжыць у арганізацыі рэальнай барацьбы з пошаснымі хваробамі. Трэба цьвёрда кіравацца жалезным законам вэтэрынарыі, каб ні адна сьвіньня-матка не прайшла ў гаспадарку не прапушчанай праз карантын. Ні ў якім разе не можа быць арганізаваны карантын непасрэдна ў сьвінаводчаскай сядзібе, але гэта паказаньне таксама парушаецца. У самыя бліжэйшыя дні павінны быць арганізаваны карантыны для прыёму сьвіней. Гэта баявая, ударная

задача, якая павінна быць абавязкова тэрмінова вырашана ў поўнай адпаведнасьці з інструкцыяй „Сьвінавод“.

Давядзеньне матачнага стада па саўгасах у 1931 г. да 50 000 штук патрабуе ўзбуйненьня саўгасаў па ворнай плошчы к вясеньняй с.-г. кампаніі да 100 000 *га*. Гэта задача павінна быць вырашана, галоўным чынам, праз пашырэньне існуючых саўгасаў, ліквідуючы гэтым асноўны недахоп, драбнату саўгасаў, якія перадаюцца „Сьвінаводу“. Толькі тады можна будзе стварыць сапраўды буйныя мэханізаваныя фабрыкі мяса. Але трэба адзначыць, што над узбуйненьнем саўгасаў, на грунце вядомай пастановы СНКБ, ніхто не працуе. Мы ня маем ніякіх зьвестак: за рахунак якіх зямель,— канкрэтна на колькі, калі будзе ўзбуйнен саўгас, а бяз гэтага нельга пабудаваць сур'ёзнага пляну на 1930-31 г. Зямельныя органы і непасрэдна саўгасы павінны адказаць на гэтыя пытаньні зусім канкрэтна, цьвёрда і ў мінімальна кароткі час. Пастанова СНК дае патрэбны грунт, каб пры належнай рабоце гэта задача была выканана, каб ужо адведзеныя ў парадку зямляўпарадкаваньня землі былі зьведзены к аднаму месцу яшчэ ў гэтым годзе, каб на далучаных плошчах былі праведзены поўнасьцю падрыхтоўчыя работы к вясьне 1931 году. Патрэбна рашучая перабудова севазваротаў у бок максымальнага здабыцьця кармоў. Пасеў жыта можа быць дапушчаны, як максымум 15 проц. па „Сьвінаводу“, спускаючыся ў большасьці гаспадарак і да 10 проц. Гэта ліміты па азімым бягучага году. Пры гэтым процанце трэба будзе саўгасам „Сьвінавода“ засеяць да 3 770 *га* азімых. Кармовая праблема патрабуе, каб па-новаму было пастаўлена гэта пытаньне і ў асеньнюю с.-г. кампанію. Культурай, якую трэба сеяць на корм у восень зьяўляецца азімая віка. Па арыентыровачных намётках устанаўліваецца засеў 150 *га* на насеньне і 1 200 *га* на зялёны корм.

Працяг барацьбы за высокі ўраджай яравых гэтага году патрабуе, каб была надана асаблівая ўвага асыпным культурам — своечасовае прарэджваньне і пульхненьне. Па гэтых культурах рашаючы вынік ляжыць у агратэхнічных мерапрыемствах. Уся праблема ўраджаю патрабуе больш рэальнай барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. І, нарэшце, барацьба за высокі ўраджай патрабуе сапраўды своечасовай і добраякаснай уборкі і абмалоту. Задача 30 проц. павышэньня ўраджайнасьці павінны быць заваяваны, чаго-б гэта ні каштавала. Да павышэньня ўраджайнасьці азімых пасеваў гэтага году павінны быць прад'яўлены яшчэ большыя запатрабаваньні. У час, калі партыя паставіла задачай у мінімальна кароткі тэрмін дагнаць і перагнаць у тэхнічна-эканамічных адносінах капіталістычныя краіны, дык у сельскай гаспадарцы гэта задача ў саўгасах павінна быць ударнай.

Гэтаму спрыяе рост жывёлагадоўлі ў саўгасах, пашырэньне ўжываньня штучных угнаеньняў, палепшаньне тэхнікі палёвай гаспадаркі. Таму трэба, каб саўгасы былі поўнасьцю забясьпечаны патрэбным угнаеньнем, каб усё ўгнаеньне было ў чэрвені поўнасьцю выкарыстана.

Перад саўгасамі стаіць задача актыўнага разгортваньня торфаздабычы поўнага скарыстаньня попелу, рашучага фарсаваньня вапнаваньня, асабліва ў саўгасах, якія блізка да размольных вапенных установак.

Своечасовая і добраякасная ўборка і малацьба ёсьць адзін з сродкаў атрыманьня большага ўраджаю. Гэта задача павінна быць у самым цэнтры ўвагі.

Агульная плошча ўборкі па саўгасах „Сьвінавода“ даходзіць да 30 000 *га*. На гэту задачу павінна быць сапраўды мабілізавана ўся грамадзкасьць саўгасаў.

Уборка будзе праходзіць пры недахопе інвэнтару, трактароў і вострым недахопе рабочых рук, асабліва калі ўлічыць патрэбнасьць ня больш як у 3 тыдні з пачатку ўборкі падрыхтаваць усё належнае да здачы. Гэта зусім па-новаму ставіць праблему выкарыстоўваньня трактароў, складанага інвэнтару, конскай цягавай сілы, стацыянарных рухавікоў і людзкой рабочай сілы. Для гэтага патрэбна, каб безадкладна быў разгорнут і к палове чэрвеня скончан рамонт трактароў і ўсіх машын. Ня можа застацца неадрамантаванай ніводнае машыны. З двух трох нягодных трэба скласьці адну годную, калі нельга адрамантаваць усе, а лік працуючых машын павінен быць павялічаны. Пры наліччы лішку інвэнтару — трэба перадаць яго суседнім саўгасам.

Недахоп цягавай сілы і інвэнтару павінен быць пакрыт пераводам работы трактароў і прычэпнага інвэнтару на 20-гадзінны рабочы дзень, коннага інвэнтару на дзьве зьмены зьмяняючы коняй. Патрэбна, каб прызначаныя па разнарадцы машыны не пазьней чэрвеня былі ўжо ў саўгасах.

Гэта-ж задача патрабуе, каб саўгасы ўжо зараз прыступілі да арганізацыі розных рабочых арцеляй, падрыхтоўкі ўмоў іх максымальна поўнага выкарыстаньня. Асеньняя с.-г. кампанія павінна стварыць падставы лепшага правядзеньня вясеньняй с.-г. кампаніі 1931 г. Трэба, каб поўнасьцю і своечасова было праведзена лушчэньне на 3.400 *га*, зяблевае ворыва ня толькі на сучасных саўгаскіх землях 19.300 *га*, але і на далучаных 25.000 *га*. Пляны сіласаваньня, мерапрыемствы па асеньняму палепшаньню сенажацяй, пашырэньню пасеўных плошчаў за рахунак розных хмызьнякоў і малапрадукцыйных сухадолаў павінны быць выкананы. Далей трэ адвесьці выган для прагулак жывёлы. Зараз трэба правесьці працу па пакрыцьцю ўсіх паступаючых матак ангельскімі хракамі, каб атрымаць максымальна раньні добраякасны асеньні апарос.

Шляхам заатэхнічных мерапрыемстваў трэба да максымуму зьнізіць адсед, падзеж парасят.

Патрэбна поўнае выкарыстоўваньне будаўнічых і іншых матар'ялаў, далей навукова-абгрунтаванае скарачэньне норм высеву, за рахунак лепшага адбору насеньня і зьмяншэньне страт ад шкоднікаў. Максымальна поўнае выкарыстаньне сродкаў вытворчасьці, сыравіны, розных адходаў, зьмяншэньне спажываньня гаручага і збор адпрацованага аўтолу і шмат іншых мерапрыемстваў трэба ўжыць у саўгасах, каб скараціць недапушчальныя і непатрэбныя і шкодныя страты.

Саўгасы ва ўборачную і асеньнюю с.-г. кампанію павінны выправіць памылкі вясеньняй, узьняць на новую палітычную вышыню сваю ролю пралетарскіх цэнтраў у дапамозе калгаснаму будаўніцтву і правядзеньне ўсіх задач уборкі і севу ў калгасах і бядняцка-серадняцкіх гаспадарках. Дапамога паказам, садзейнічаньне спэцыялізацыі калгасаў, каб яны сталі сапраўды арганізацыяй сацыялістычнага земляробства.

Зараз-жа трэба разгарнуць дапамогу рамонту машын, складаньню рабочых плянаў, разгортваньню работы вытворчых нарад, аказваючы мажлівую дапамогу трактарамі і складанымі машынамі. Асеньняя сяўба і ўборачная кампанія павінны быць шырока выкарыстаны, каб на грунце маючыхся посьпехаў калгаснага будаўніцтва і сапраўднай добраахвотнасьці—арганізаваць яшчэ большы рух бядняцка-серадняцкіх мас за калгасы. Трэба арганізацыйна і гаспадарча ўзмацніць існую-

чыя колгасы. Вядучая роля саўгасаў павінна быць узьнята на большую вышыню і ў першую чаргу прыкладнасьцю свае работы.

Арганізацыя мясных сьвінаводных фабрык патрабуе перш за ўсё *пляну выкананьня ўсіх паказаных задач: будаўнічага ўкамплектаваньня сьвінаматак*, уборачных, пасеўных і інш. З плянам толькі ў галаве дырэктара і тэхніка—задач ня выканаем. Плян павінен быць рабочым, календарным і канкрэтным, а не парадным, ня ў „огуле і цалкам“. Плян павінен быць зразумелым кожнаму рабочаму і даведзен да кожнага цэху (будаўнічага, жывёлагадоўлі, палявой гаспадаркі, садова-гароднага і г. д.), кожнай брыгадзе ў цэху і да кожнага паасобку рабочага. Толькі такі плян адыграе сваю арганізуючую ролю і мы яго павінны атрымаць, як-бы гэта цяжка ні было.

Другое, без чаго ня могуць быць праведзены ўсе гэтыя задачы—гэта належная арганізацыя рабочае сілы, забесьпячэньне сапраўднага ўзросту вытворчасьці працы і безадкладнае ўстанаўленьне ўдарных тэмпаў работы.

Трэба зразумець усім, што задачы стварэньня новых міравых рэкордаў ня могуць быць выкананы самацёкам, з старай расхлябанасьцю, разважаньнямі, „а можа і ня будзем“.

Нарэшце, пара спыніць сабатаж з боку адміністрацыйнага пэрсаналу ў правядзеньні асноўнага мерапрыемства забясьпечваючага ўзрост вытворчасьці працы—зьдзельшчыны. Усе будаўнічыя, уборачныя работы; і асеньняя сяўба павінны быць пераведзены на гэту сыстэму. Трэба праз яе паляпшаць матар'яльнае становішча рабочых. Для барацьбы за якасьць работы, за выкананьне ўсіх якасных паказчыкаў трэба прывесьці ў рух усе рычагі, у тым ліку і сыстэматычнае прэміраваньне.

Выкананьне гэтых задач патрабуе сапраўднага сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Зараз спаборніцтва застанавілася нейдзе на задворках учарашняга дню. Мы ня маем яшчэ ніводнага прыкладу пераводу на рэйкі сацыялістычнага спаборніцтва задач арганізацыі сьвінапрамгасаў. А між тым толькі сацспаборніцтва і ўдарніцтва створыць падставы для посьпеху ў гэтай справе. Вытворчыя нарады яшчэ таксама цягнуцца ў хвасьце. Пакуль што мы ня маем і патрэбнага адзінаначалія, пануе неразьбярыха і безадказнасьць у шэрагу саўгасаў.

Усе, як адзін, у шэрагі сапраўдных ударнікаў. Саўгасы трымаюць гістарычны экзамен. Пад кіраўніцтвам партыі, пры сапраўднай дапамозе ўсіх арганізацый і самаахвярнай рабоце рабочых калектываў, ён павінен і будзе вытрыман.

**Аўчыньнікаў.**



Калгасьніца за пасевам

# Калгаснае будаўніцтва



## Калгас „Чырвоная Беларусь“ жыве і мацнее

*(Жлобінскі р., Бабруйская акр.)*

Калгас „Чырвоная Беларусь“ на сёнешні дзень ужо мае пад сабою грунт для таго, каб паказаць ворагам калектывізацыі, ворагам нашага сацыялістычнага будаўніцтва, якія ўвесь час шыпяць па-за вуглом, што калгас замацуецца.

Я тут каратка падзялюся з чытачамі, як мы заклалі гэты зародак калектывізацыі ў нашай вёсцы.

Праца па арганізацыі калгасу пачалася ў 1929 годзе. Спачатку было створана ядро з 40 гаспадарак. Праўда, сюды было ўвайшлі і кулакі, але іх хутка выключылі. Але потым лік сяброў павялічваўся і на 1930 год мелася ўжо 98 гаспадарак. Сюды ўвайшлі ўсе: і выпадковыя і несьвядомыя, нават „цёмныя людзі“, якіх нібыта сілай загналі. З гэтага пачалася барацьба. Справа ў тым, што калгасныя сходы праходзілі шумлівыя, звонкія—на ўсю акругу. Значная частка была супроць замацаваньня калгасу, за яго разбурэньне. Тут шмат хто імкнуўся прабіцца пад маркай калгасьніка куды-небудзь. Калі камандыравалі на курсы трактарыстых, дык з в. Сьвятое, дзе было ў калгасе 14 гаспадарак, падалі 21 заяву. Кожны сход выносіў пастановы абагуліць коні і інвэнтар, а на справе нічога не рабілі, таму што было зусім некалгаснае імкненьне. І калі прачыталі артыкул тав. Сталіна, то ўвесь бруд, усе, хто выпадкова папаў у калгас—адсыпаліся.

Гэта было вельмі добра, бо тут убачылі, хто шкодзіў справе. Пасьля гэтага тыя, хто засталіся, як адзін, пастанавілі замацаваць калгас,

Для гэтага прапанавалі: хто калгасьнік на справе—той будзе за абагульненьне цягавай сілы і с.-г. прыладаў. А хто не—хутчэй падавай заяву аб выхадзе і не перашкаджай нам працаваць. Лёзунг добраахвотнасьці поўнасьцю сябе апраўдаў.

Трэба адзначыць, што левыя загібы шкодзілі ў арганізацыйнай працы. Так ставілі ў першую чаргу абагуленьне кароў і сьвіней, а ня коняй, вупражы і с.-г. інвэнтару. У гэтым была памылка. Жанчыны былі супроць абагульваньня кароў і сьвіней, ды і калгасу гэтага яшчэ не патрабавалася. Быў зажым самакрытыкі. Не дазвалялі выказвацца аб недахопах у калгасе. Паступова гэта зьнішчана.

Калгас „Чырвоная Беларусь" выехаў у поле ў 21 парку коняй. За адзін дзень узаралі пад яравую пшаніцу 17 *га.* Дзень быў сьвятошны. Ад палосак, ад межаў не засталося і сьледу, зрабіўся адзін палетак. Цэлы дзень глядзелі з-за вуглоў заможнікі і кулакі, чакалі—ці скора будзе сварка сярод калгасьнікаў. А ў полі ў аратых быў вясёлы настрой. З першага-ж дню наладзілася ўдарніцтва і сяброўскія адносіны ва ўсіх сяброў калгасу.

Цікава адзначыць і тое, што на першы дзень выезду было 25 гаспадарак у калгасе, а на другі дзень стала 30. На сёнешні дзень маем 34 гаспадаркі з колькасьцю членаў 85 чал. (163 душы). Для дзяцей адчынены ясьлі; дзяцей 32 чал.

Коняй калгас мае 44, усе абагулены, жарабят 7 штук. Кароў маецца 66, цялят 47, з якіх абагуленых 46 штук, рэшта ў індывідуальным карыстаньні членаў калгасу. Поўнаму абагуленьню перашкаджае раскіданасьць гаспадарак членаў калгасу. К зіме, вядома, застанецца неабагуленых каля 34 кароў—адна на гаспадарку. Сьвіней абагулена 28, авечак 29 (а ўсяго авеч. 93 штукі), рэшта ў індывідуальным карыстаньні.

Інвэнтару калгас мае дастаткова: плугоў простых 34, „Сакаўскіх" і інш.—5. Акрамя таго ёсьць 2 трактарныя плугі і трактар. Але, на жаль, трактар веснавую пасеўкампанію прагуляў, і зараз ён у гор. Жлобіне, „усё рамантуецца", хоць трактарысты наведвае яго штотыдзень. Гэта трактар мае нагрузку?! Барон у калгасе простых 35 штук, а жалезных (рандаль, спружыновак і інш.) 16 штук. Ёсьць вялікая трактарная малатарня і шэраг дробных малатарак. Транспартам калгас забясьпечаны. Жылых памяшканьняў калгас мае ўдастатку. Улетку пачнецца пабудова агульных хлявоў, складу і гумна.

## Пасеўны плян

Яравы клін калгасу „Чырвоная Беларусь" складае 178 *га.* Азімы яшчэ ня вызначаны. Усяго будзе пад калгасам 600 *га.* Да яравога севу калгас быў поўнасьцю забясьпечан насеньнем. Адзін недахоп—калгас не засявае лубіну, які тут патрэбна абавязкова сеяць. Пасеў такіх культур, як пшаніца, ячмень, жыта, канюшына, проса, гарох і інш. выпаўнены на 100 проц. Сеў далей працягваецца і калгас упэўнены, што, у парадку ўдарніцтва, пасеўная кампанія будзе выканана.

У калгасьнікаў ёсьць воранае балота, каля 16 *га,* ад былога Кастрычнікаўскага мэліярацыйнага т-ва в. Сьвятое, дзе калгас засявае авёс і траву. Наогул у калгасе ёсьць шмат балота, якое будзе сіламі калгасьнікаў перарабляцца ў поле і лугі (частка канюшыны ўжо пасеяна па азіміне).

Калгас пабудаваў сваю кузьню. Каваля надаслаў суседні калгас, а мы ў замену далі 4 коняй для палёвых работ. Гэтым замацоўваецца змычка між калгасамі. Як бачым, калгас ужо замацаваў сваю гаспадарку. Калі запытаемся ў калгасьніка—ці не жадаў-бы ён, каб гэта зноў па-старому працаваць, дык пачуеш такі адказ—і думкі няма. На што нам марыць пра старое, калі гэтак лепш.—Першыя дні паказалі, што жыць і працаваць гуртам лягчэй, што гэта праца больш прадукцыйная, эканамічная, спрыяючая і пасьпяховая.

Калгас зьяўляецца сябрам цагельнага т-ва, мае тарфянае т-ва, мае лес мясцовага значэньня, быўшы кулацкі і абшарнікаў. Варта дзівіцца, таму энтузіязму, з якім усё робіцца.

### Культурны быт калгасу

Зараз перад актывам калгасу паўстае пытаньне, аб стварэньні культурна-асьветнага і палітычнага асяродку ў калгасе. Выпушчаецца насьценгазэта „Наш Шлях", у якой адбіваецца жыцьцё і праца калгасу. Створаны шэраг ячэек і гурткоў, але за адсутнасьцю кіраўніцтва праца некаторых гурткоў кульгае, а ў некаторых і зусім сьпіць. Маецца ў калгасе 2 сябры камсамолу, 3 селькоры. Ячэйка КСМ, станцыі Чырвоны Бераг парашыла стварыць пры калгасе камсамольскую групу. Вядома, гэтага мы даб'емся. Ячэйка „Бязбожнік" не працуе, але працу будзем устанаўліваць на пэўныя рэйкі. Калгас выпісвае літаратуру, „Праўду", „Савецкую Беларусь", часоп. „Шляхі Калектывізацыі". Гэтага мала, мы паставім падпіску на 10 экзэмпляраў выдавецкай літаратуры. Парашылі закупіць музычныя інструманты для моладзі. Мяркуецца аб'яднаць піонэрскі актыў, паслаць сябра калгасу на курсы важатага, на курсы бязбожнікаў, на сакратароў яч. КСМ, бо гэта вельмі патрэбна, а такія курсы Бабруйскай АК КПБ ужо вызначаны.

Моладзь жадае адчуваць сябе ў калгасе свабоднай і праводзіць свой быт культурны і палітычны—па-новаму.

### Наша далейшая праца

Ёсьць, бязумоўна, яшчэ недахопы. Бываюць ўхіленьні ад работы, сымуляцыя, але яе вельмі хутка карчуюць. У далейшым калгас „Чырвоная Беларусь", бязумоўна, вырасьце.

Калі калгасьнікі паехалі да аднаго гаспадара браць гной яго сына, з якім ён падзяліўся з-за калгасу, дык ён заяўляе:

— Сёлета яшчэ бярэце сынаў, а на лета будзем разам вазіць на адно поле.—Дзядзька заяўляе аб жаданьні ўступіць у калгас, але ўжо да парадку гаворыць—з вясны 1931 году.

Калгасьнікі ўжо цяпер абмяркоўваюць плян, як наладзіць прыёмку ў калгас у будучым. Бязумоўна будзе цяга ў калгас. Але тых, якія потым па-свойму пачнуць устанаўліваць парадкі, якія пачнуць шкодзіць справе, такім загадзя даем адказ: лепш не падавайся ў калгас.

Уважліва, усё роўна як у партыю, патрэбна прымаць у калгас,— пастанавілі калгасьнікі.

Калгас „Чырвоная Беларусь" жыве і мацнее. Ён будзе прыкладам для вакольнага сялянства, як выконваць пастановы і дырэктывы камуністычнай партыі на фронце сельскай гаспадаркі і па лініі выкананьня пяцігодкі. А. Сьвяцкі.

# Аб камуне „Камсамолец“

Быўшы панскі маёнтак у Папернянскім с.-с. зараз жыве новым жыцьцём, жыцьцём сацыялістычнага будаўніцтва.—Там арганізавана камуна „Камсамолец“. Складаецца яна з інтэрнацыянальнай моладзі, у большасьці з працоўных яўрэяў, за апошні час пачалі ўлівацца ў яе і сялянскія гаспадаркі. Але ў недалёкі мінулы час камуна перажыла шмат розных цяжкасьцяй. Спачатку там гаспадарыла контр-рэвалюцыйная група „сіяністых“, якая цалкам разбурыла гаспадарку: набрала надзвычайна многа крэдыту, большасьць гэтых крэдытаў растранжырыла на харчы і іншыя справы, за што галоўка кіраўніцтва, у ліку 6 асоб, папала пад суд.



Сеюць грэчку ў калгасе „Камінтэрн“, Чачэрскі р., Гомельскай акр.

У сучасны момант камуна аднаўлена і паступова ўзмацняецца. Праведзена чыстка ад чуждага элементу; засталіся тыя, хто хоча працаваць, гэта зацікаўленыя ў падняцьці сацыялістычнай гаспадаркі. Камуна мае 450 *га* зямлі, 70 кароў, 28 коняй, 70 авечак, 40 сьвіней, 30 цялят маладняка, 17 падцёлкаў, 4 жарабят. Акрамя гэтага, ёсьць млын, праўда незавідны, бо патрабуе рамонту, але ўсё-ж такі дае карысьць камуне. У самай камуне ёсьць перспэктывы для разьвіцьця. Ёсьць вялікі сад, 50 калод пчол, арганізавана малочная арцель, якая да гэтага часу была ня ў веданьні камуны, нядаўна-ж вынесена пастановай райкому і РВК Астрашыцкага Гарадка, каб гэтую арцель перадаць камуне, бо фактычна арцель існуе выключна за лік камуны: малако паступае з камуны, памяшканьне, майстар, лядоўня—усё ад камуны, а прыбыткі ад вырабу масла камуна не атрымлівала. Камуна была добра падрыхтавана да вясеньняга севу: адрамантаваны сельска-



гаспадарчыя машыны, складзены плян, падрыхтавана насеньне. Камунары заключылі сацспаборніцтва з рабочымі саўгасу „Вішнёўка“ на лепшае правядзеньне пасеўнай кампаніі. Загадчык саўгасу „Вішнёўка“ таварыш Жызьнеўская абяцала ўсямерна дапамагчы камунарам у наладжваньні ўсёй пастаноўкі гаспадаркі.

Ёсьць у камуне і нездаровыя зьявішчы. Да гэтага часу камунары нічога не атрымлівалі з вопраткі. Камуна яшчэ ня выбілася з грашовых цяжкасьцяй. На апошнім сходзе камунараў было пастаўлена пытаньне аб пераходзе на зьдзельную вырабатку. Гэтае мерапрыемства падніме працоўную дысцыпліну і зьнішчыць хваравіты настрой у тых, хто часам мяркуе аб выхадзе з камуны. На гэтую частку патрэбна зьвярнуць увагу мясцовай партячэйкі і асабліва райкому партыі.

Праектуецца ў гэтым годзе пабудаваць завод для адкорму сьвіней на бэкон. Гэтае мерапрыемства надзвычайна выгаднае і трэба будзе ўсе сілы прыкласьці, каб яго ажыцьцявіць. Пры грубых падліках прыбытковасьць камуны к канцу года, пасьля рэалізацыі ўраджаю, дасьць 15 тыс. руб.

Пры правільным кіраўніцтве ўсёй гаспадаркай, пры належным ўдзеле Райкому і мясцовых органаў, камуна ў бліжэйшыя 2-3 гады пакрые сваю завінавачанасьць і будзе ўпаўне рэнтабельнай прыбытковай гаспадаркай.

Шэфства Чырвонай арміі над камунай прыймае форму практычнай дапамогі. К пачатку севу шэфы адправілі ў камуну 10 чырвонаармейцаў, добрых гаспадароў для працы, а таксама вылучылі і конскую сілу. Камуна, як вышэйшая сацыялістычная форма на вёсцы, павінна стаць сапраўды жывым агітатарам для акаляючага бядняцка-серадняцкага насельніцтва за справу калектывізацыі. Акружком і ЦК Камсамолу павінны практычна дапамагчы ў гэтым камуне.

**А. Арлоў.**

Ад рэдакцыі. Наўрад ці правільна зараз ліквідаваць малочнае таварыства. Для вырашэньня гэтага пытаньня—трэба запрасіць тлумачэньня раённых арганізацый.

---

# Чырвонаармейцы на гаспадарчым фронце

У Лупалаўскім раёне, Магілеўскай акругі, ёсьць камуна імя N-скай Самарскай Дывізіі пад назвай „Чырвонаармеец“. Гэта камуна была закладзена адным з актывістых дывізыі, чырвонаармейцам таварышом Радыгіным. Таварышу Радыгіну з групаю дэмабілізаваных чырвонаармейцаў прышлося распачаць пабудову сацыялістычнай гаспадаркі паміж кустоў, лесу, балота, у адлегласьці ад г. Магілева ў 20 кілёмэтраў.

Калі прыехалі чырвонаармейцы на месца працы, дык яны сустрэліся з пустэчай. Прышлося застацца жыць некаторы час пад адкрытым небам, на абрэзках кулацкіх зямель. Ні адзін кулак, які знаходзіўся ў гэтым месцы, не даваў чырвонаармейцам, нават за грошы, ні адной крошкі хлеба, нават не хацелі даваць піць вады, ня пускалі жыць у хаты. А хат у іх было па дзьве і адна з іх была ў кожнага вольная.

Але пралетарская закалка нашых чырвонаармейцаў, якія па паходжаньню рабочыя і сяляне-беднякі, дала магчымасьць перамагчы ўсе

цяжкасьці ў іх будаўніцтве,—камуна разьвіваецца. На верасень 1929 г. пад камунай было 496 *га*, з колькасьцю сябраў камуны 18, а цяпер 846,35 *га* з 185 камунарамі. Усе будынкі першай неабходнасьці (як хаты для жыльля, хлявы для жывёлы і інш.) пабудавалі сваімі сіламі на працягу 40 дзён.

Зараз камуна працуе бальшавіцкім тэмпам. Вясеньні сеў яна выконвае сваімі сіламі. У выпаўненьні вясеньняга севу была адна перашкода—гэта адсутнасьць мэханічнае сілы—трактароў. Але N-ая Самарская Дывізія не забывае пра сваю камуну. Яна ў дзень першага мая перадала ўрачыста 1200 руб. грошай, радыёпрыёмнік з гучна-гаварыцелем і трактар.

У адказ сваім шэфам-бацьком чырвонаармейцам N-ай Самарскай Дывізі камуна ў дзень першага мая абвясьціла сябе ўдарнай. Абяцала перамагчы ўсе цяжкасьці ў сацыялістычным будаўніцтве, выканаць на ўсе 100 проц. вясеньнюю пасеўкампанію і ўцягнуць у свае шэрагі бядняцка-серадняцкія масы акалючага насельніцтва.

Камуна расьце, папаўняюцца яе шэрагі з кожным днём.

**Каленік А. Л.**

---

# Калгас „Гарадок“ расьце

(*Шклоўскі раён, Магілеўскай акругі*)

Калгас „Гарадок“ арганізаваўся ў 1928 г. з шасьці бядняцкіх гаспадарак на плошчы 140 гектараў. Спачатку справы ішлі дрэнна. Прычынай гэтаму было непрацаздольнае праўленьне калгасу. Амаль усе сябры былі малапісьменныя, ня ведалі як кіраваць калгасам. Плянавасьці ў працы, вучоту працы сябраў калгасу ня было. З веснавым севам у 1929 г. скончылі пазьней паасобных гаспадарак. Сенажаць ледзь пасьпелі прыбраць, частка сена засталася зімаваць у копах. Інвэнтару, цягавай сілы, рабочых рук было вельмі мала. Наогул, нехватала працоўнай сілы. Прыходзілася наймаць падзённых рабочых, што дрэнна адбівалася на грашовым становішчы калгасу.

Унутры калгасу жыцьцё было кепскае. У аднэй хаце зьмяшчалася каля 30 душ, сваркі, нават бойкі, гразь, п‘янства існавалі сярод калгасьнікаў. У дадатак да ўсяго гэтага нехапіла хлеба — прышлося купляць.

Зразумела, што такое становішча калгасу ніякага дадатнага прыкладу насельніцтву не давала. І, сапраўды, на кожным сялянскім сходзе можна было пачуць:

— У калгасах жыць нельга. Паглядзеце як у „Гарадку“ жывуць: сварацца, б‘юцца, толку ніякага.

Калгас напэўна распаўся-б, калі-б за яго ня ўзялася Гарадзішчанская партыйная ячэйка.

Пераабраўшы праўленьне, партыйная ячэйка дала старшыню праўленьня — сябра партыі.

Новае праўленьне адразу-ж узялося за працу. Перш за ўсё заведзены добры вучот працы, заведзена сыстэма разрадаў. Усяго 6 разрадаў. Сярэдняя штодзенная выпрацоўка сябра калгасу раўна 1 р. 75 к., што ў месяц складае 52 р. 50 к. Старым, хворым, дзецям і вучням

даецца ў месяц па 9 руб. Зараз у калгасе маецца 18 добрых коняй, 15 жарабят, кароў 38 штук і 3 вытворцы быкі.

Унутры-калгасны быт палепшыўся. Ужо няма тых сварак і боек, якія былі раней. Усё абыходзіцца мірна. Для калгасьнікаў пабудаваны два дамы.

Лік сябраў павялічыўся, зараз 9 сямей і 5 паасобных сябраў.

У насельніцтва думка аб калгасе „Гарадок“ зьмяняецца. Цяпер ня кажуць, што ў калгасе жыць нельга, бо бачаць, што ад кіраўніцтва залежыць праца і становішча калгасу.

**В. Шорах**

Ад рэдакцыі. Чакаем адказу ці ёсьць зараз плян працы ў калгасе „Гарадок“, як робіцца аплата працы — падзённа, ці зьдзельна і на падставе якіх разрахункаў устаноўлена плата ў 1 р. 75 кап.

---

## Камуна імя „Молатава“ будуе новае жыцьцё

У 1928 годзе, у чэрвені месяцы, на тэрыторыі Чарнянскага сельсавету, у 10 кілёмэтрах ад м. Шклова арганізавалася першая калектыўная гаспадарка ў сельсавеце, с.-г. камуна імя „Молатава“. Камуна з'арганізавана з сялян в. Лутна на абрэзнай ад кулакоў зямлі, запаснага зямельнага фонду і часткова з зямлі саміх камунараў.

Ініцыятарамі арганізацыі камуны былі мясцовыя партыйцы, якія з энтузіязмам узяліся за працу. Зразумела, што камуна на першых кроках свайго існаваньня мела шмат цяжкасьцяй, якія яна перамагла, дзякуючы таму, што атрымала шмат дапамогі з боку мясцовых савецкіх і каапэрацыйных арганізацый.

Значную дапамогу ў апрацоўцы зямлі калгасу зрабіў калгас „Іскра“, які пэрыядычна даваў камуне трактар.

Камуна адразу паказала карысьць калектыўнай працы перад індывідуальнымі гаспадаркамі. Вынікам гэтага было тое, што ўвесну 1929 г. у камуну ўступіла 22 гаспадаркі беднякоў і серадняков з ваколічных вёсак і 7 батракоў, якія зусім ня мелі ніякай маемасьці.

Цяпер у камуне 33 сям'і, з якіх 2 сям'і батракоў, 166 беднякоў, 12 серадняков, 3 заможных і 10 батракоў-адзіночак, ня маючых маемасьці, а ўсяго 168 душ (мужчын 84 асобы, а жанчын — 85). Працаздольных 78 асоб. Зямлі камуна мае 460 гектараў: пахаці — 315 гект., сенажаці — 82 гект. і 63 гект. лесу.

Інвэнтар як жывы, так і няжывы павялічыўся амаль што ў тры разы. Цяпер у камуне маецца жывёлы: рабочых коняй 33 шт., жарабят — 10, кароў — 70, з якіх 10 племянных, 7 цялят, 73 сьвіньні, 90 авец, 50 — ягнят, 1 бык і 2 кныры палепшанай ангельскай пароды.

З няжывога інвэнтару: 7 малацілак, 7 веялак, 7 жняярак, 2 касілкі, 5 конных грабель, 26 плугоў, 6 акучнікаў, 10 спружынных барон, 25 барон „Зіг-Заг“, 2 бараны лугавых, 3 плугі лугавых, культыватар і шмат іншых прылад і дробных машын. Інвэнтаром камуна забясьпечана поўнасьцю. К вясеньняй сяўбе камуна мела 850 пудоў аўса, 81 пуд ячменю, 75 пудоў грэчкі, 74 пуды пшаніцы, семя ільнянога 54 пуда, бульбы 3.600 пудоў. Усё насеньне ачышчана. Згодна

падлічэньняў, у камуне нехапала на вясеньні пасеў 850 пуд. аўса, які камуна атрымала ў с.-г. таварыстве.

Крэдыту камуна атрымала 8 600 рублёў на пакупку жывёлы і на жыльлёвае будаўніцтва. Крэдыт цалкам выкарыстаны. У 1929 годзе камуна закантрактавала 30 гект. аўса і 20 гект. жыта. У час хлеба-нарыхтоўчай кампаніі камуна здала 1 100 пуд. аўса, 364 пуды жыта, 220 пуд. семя ільнянога, 150 пуд. льна-валакна і 3 000 пуд. бульбы.

Закупіла другой пазыкі індустрыялізацыі на 100 р. і трэцяй на 315 р.

Належнае разьвіцьцё маецца ў садоўніцтве і пчалярстве. Камуна засадзіла сад на плошчы 4½ гектара і мае 16 вульляў рамовых пчол. У галіне будаўніцтва маюцца значныя дасягненьні, пабудаваны два дамы на 12 кватэр, хлеў і сьвіран. Зараз камунары жывуць у 4-х вялікіх дамох, толькі нядаўна ўступіўшыя серадмякі жывуць яшчэ ў сваіх хатах.

Вельмі добра пастаўлена ў камуне культурна-асьветная праца. Працуе лікпункт, на якім вучыцца 24 няпісьменных, ёсьць вячэрняя школа і дэлегацкі пункт. Камуна мае ўласны клюб з гучна-гаварыцелем, дзе камунары праводзяць свой вольны час. Ёсьць бібліятэка з 400 кніг па сельскагаспадарчых і антырэлігійных пытаньнях. Выпісваецца: „Праўда", „Зьвязда", Савецкая Беларусь", „Бедната", „Шляхі Калектывізацыі". „Камунар Магілеўшчыны", „Орка", часопіс „Бальшавік", сельскагаспадарчая энцыклёпэдыя і шмат іншых. Маецца драмгурток, палітычны і музычны. Амаль усе члены комуны зьяўляюцца членамі арганізацый: „МОПР", Асоавіяхэм, „Прэч Няпісьменнасьць" і інш.

У мінулым годзе былі ясьлі, у якіх зьмяшчалася 25 дзяцей камунараў. Вынікі культурнай працы маюцца: усе камунары павыкідалі абразы з сваіх хат, адбылося 2 шлюбы без папа, зроблены 3 чырвоных хрэзьбін, ні адзін з камунараў не зьвяртаецца к папу для выпаўненьня рэлігійных забабон.

Камуна састаіць пайшчыкам у спажывецкай і крэдытнай каапэрацыі, у малочнай арцелі і ў Магілеўскім с.-г. саюзе. Пушчаны ў рух нацыяналізаваны ў кулака нафтавы млын. Камунай складзены вытворчы плян і плян будаўніцтва. У вытворчым пляне мяркуецца набыць да вясеньняй сяўбы трактар, на які ўжо выдана з уласных сродкаў 1 600 руб. задатку, радавую сеялку, сеялку для гародніны.

У пляне будаўніцтва намечана пабудова хлява на 100 штук жывёлы, будова якога ўжо распачата, стайні на 50 коняй, сьвінарнік, два дамы для кватэр, сталоўку, клюб і сілосную вежу. Мяркуюць камунары стварыць малочную арцель і абсталяваць яе ўсімі патрэбнымі прыладамі.

Можна ўпэўнена сказаць, што вытворчы плян і плян будаўніцтва будуць выкананы з перавышэньнем. Камунары працуюць з вялікім запалам, маюць надзею на лепшае разьвіцьцё камуны і паляпшэньне свайго дабрабыту. Перспэктывы на гэта маюцца.

З недахопаў трэба адзначыць тое, што камуна ня ўступіла ў сацыялістычнае спаборніцтва з іншымі калгасамі і не практыкуе сац. спаборніцтва паміж самімі камунарамі. Слаба наведваюць камуну аграном і вэтэрынарны доктар. Іх парады і дапамога вельмі патрэбны камуне. Шклоўскаму РВК патрэбна было-б прымацаваць да камуны хоць-бы аднаго агранома, які значна дапамог-бы камуне ў яе далейшым разьвіцьці.

**Я. Булат.**

А д р э д а к ц ы і. Чакаем адказу, як пастаўлена вытворчасьць працы сяброў камуны, як камуна ўцягвае ваколічнае бядняцка-серадняцкае насельніцтва ў камуну?



# ЖЫВЁЛАВОДЗТВА І КАРМАВОЕ ПЫТАНЬНЕ

## За правільную арганізацыю пасьбы жывёлы

**Саўгасы, калгасы і сяляне, арганізуйце правільную пасьбу жывёлы, бо гэта будзе значным дасягненьнем у галіне падвышэньня прадукцыі нашае жывёлагадоўлі**

Правільная пасьба жывёлы на добрых пашах ёсьць самы лепшы спосаб кармленьня і ўтрыманьня жывёлы. Добрая паша спрыяе высокай удойлівасьці кароў, дае танны нагул жывёлы, спрыяе хуткаму росту маладняка і, урэшце, добрая паша ёсьць залог здароўя жывёлы.

У нас, калі паўстае пытаньне аб пашы, амаль заўсёды думаюць, што трэба толькі павялічыць плошчу, палепшыць якасьць і зусім не зьвяртаюць увагі на тое, як лепш скарыстаць пашу, як лепш арганізаваць пасьбу жывёлы. Вядома, павялічэньне плошчы пашы справа надзвычайна важная, але яна павінна вырашацца разам з арганізацыяй самой пасьбы жывёлы.

Што-ж трэба зрабіць, каб правільна арганізаваць пасьбу жывёлы?

Трэба, перш за ўсё, ведаць, як жывёла забясьпечана пашай. Для гэтага трэба зрабіць ацэнку пасьбішчных ужыткаў, а потым вызначыць патрэбную для жывёлы плошчу пашы. Пры ацэнцы пашы раім кіравацца наступнымі арыентыровачнымі паказаньнямі: самымі лепшымі пасьвішчамі зьяўляюцца добрая „пойменная“ сенажаць да заказу і канюшына, або люцэрна; адзін гектар гэтай пашы забясьпечвае кормам на працягу ўсяго лета да двух кароў; хужэй будзе сухадольны луг, якога патрабуецца да 3-х *га* на галаву жывёлы. Лясная паша па якасьці можа быць розная і каштоўнасьць яе залежыць ад таго, як

густы лес і якая глеба пад лесам; пашы ў рэдкім лясу (алешніку, дубняку, бярэзьніку) патрэбна на галаву жывёлы да 3-4 *га*; густы лес, як паша мае невялікую значнасьць, асабліва густы сасоньнік; такую-ж каштоўнасьць маюць і сухія аблогі, якія ўлетку амаль што выгараюць ад недахопу вільгаці ў глебе, асабліва на пяскох. Дрэнная паша і па балотах—яе патрэбна каля 10—15 *га* на галаву жывёлы. Папару на сярэдняй глебе патрабуецца на галаву жывёлы да 3-4 *га* на лета. Для коняй патрэбна пашы процантаў на 20 больш, чым для кароў, а для сьвіньні ў 5-6 раз, для авечак у 10 раз менш, чым для кароў з разьліку на адну галаву жывёлы.

Вось, грунтуючыся на гэтых прыблізных паказаньнях, можна вызначыць тую плошчу пашы, якая патрэбна для ўсёй жывёлы асобнай гаспадаркі і цэлага паселішча.

Пашу потым трэ' разьбіць на вучасткі. Для кожнага віду жывёлы вызначыць асобныя тыпы пашы: для коняй больш падыходзіць сухая паша на роўным месцы з густым кароткім травастоем. Сырыя і балоцістыя пашы зусім ня прыгодны для коняй, асабліва для жарабят, бо на такіх пашах маладняк расьце вельмі дрэнна. Буйная рагатая жывёла, наадварот, можа карыстацца больш нізкімі і ляснымі пашамі, але балоты заросшыя асакой таксама не падыходзяць. Авечкі больш любяць сухія пашы з кароткім і густым травастоем; пасьба на балоцістых пашах для іх шкодна і зьяўляецца прычынай шмат якіх хвароб. Добра адчуваюць на нізкіх і лясных пашах сьвіньні, але для іх нельга раіць гэты тып пашы, як асноўны; для нагула сьвіней, асабліва растушчага маладняку лепшы выпас—гэта штучны, канюшына або люцэрна.

У выпадках, калі пры мясцовых умовах нельга вызначыць асобных вучасткаў пашы для рознага віду жывёлы, трэба ўстанавіць чарговасьць карыстаньня пашы рознай жывёлай. Так, дойных кароў трэба пускаць на лепшыя нестраўленыя пашы. Гэта неабходна як таму, што каровы ня могуць наядацца на пашы з невялікай травою, так і таму, што для малочнай жывёлы патрэбна больш корму. За дойнымі каровамі трэба пускаць маладняк і мала ўдойлівых кароў, ці ялавак. Далей паша можа быць выкарыстана коньмі, сьвіньнямі і, урэшце, авечкамі. Такая чарговасьць у пасьбе жывёлы дае магчымасьць поўнага выкарыстаньня пашы.

Для правільнага скарыстаньня пашы трэба ўсю плошчу, вызначаную для пасьбы, страўліваць не адразу, а рабіць па некалькі вучасткаў з тым, каб страўліваць іх па чарзе. Такая арганізацыя пасьбы жывёлы дае магчымасьць больш доўгі тэрмін трымаць жывёлу на данай плошчы пашы. У некаторых краінах Заходняй Эўропы бывае магчымым зьвяртацца з жывёлай на адзін і той-жа вучастак пашы да сямі разоў за пасьвішчны пэрыяд. Пры такой арганізацыі пасьбы паша менш утаптваецца жывёлай. Пры разьбіўцы плошчы на асобныя вучасткі трэба мець на ўвазе, каб кожны з іх не затаптваўся жывёлай пры перагонах, меў свой вадапой, а таксама меў укрыцьцё ад сьпёкі ці дажджу—лясок або хмызьняк.

Для больш поўнага выкарыстаньня пашы трэба падзяліць жывёлу на асобныя статкі, каб пасьці асобна кароў, коняй, авечак і сьвіней. Падцёлкі старэй году мэтазгодна пасьвіць разам з ялаўкамі, на больш адлеглых ад сядзібы вучастках; цяляты пасуцца асобна, на лепшых вучастках больш блізкіх да сядзібы. Дарослых быкоў і бычкоў звыш 6-8 мес. узросту трэба таксама трымаць і пасьвіць асобна.

Пры адлегласьці пашы ад сядзібы звыш 3 кілёмэтраў, мэтазгодна застаўляць жывёлу на пашы і на-нач, бо значныя перагоны адбіваюцца на прадукцыйнасьці жывёлы. У гэтых выпадках даеньне кароў арганізуецца на пашы. Для начных стойл трэба зрабіць загарадзі, а для ўкрыцьця жывёлы ад нягоды—пабудаваць паветкі.

Трэба арганізаваць пасьбу жывёлы так, каб яна заставалася на пашы больш доўгі тэрмін. Дойных кароў для павялічэньня іх удойлівасьці мэтазгодна ганяць на пашу і пасьля вячэрняга даеньня, прыганяючы ў стойлы для адпачынку каля паўночы. Гэта нават зусім неабходна ў летнюю жару, калі ў дзень прыходзіцца доўгі час трымаць жывёлу ў загонах, або ў стойлах на пашы, ці ў хлеве для ўкрыцьця ад мух, аваднёў і інш.

Жывёла павінна быць забясьпечана на пашы добрым вадапоем.

Лепшым вадапоем трэба лічыць студні, чыстыя рэчкі з пясчаным дном, або крыніцы. Забруджаныя лужы па балотах, са стаячаю вадою для вадапою не падыходзяць, бо яны будуць прычынай розных хвароб жывёлы. Калі няма натуральных вадапояў, трэба паклапаціцца аб пабудове гэтых вадапояў, капаючы студні і робячы запруды на ручаях. Часта ў рэчкі спускаюць розныя атрутныя адходы з фабрык або заводаў, таму жывёлу трэба паіць вышэй гэтых спускаў, дзе вада не забруджана. Калі для вадапою скарыстоўваюцца не праточныя пруды, або рэчкі, а з гразкім забруджаным дном, дык неабходна прыняць меры, каб вада ў іх не забруджвалася жывёлай яшчэ больш пры вадапоі. Для гэтага трэба абгараджваць такія вадапоі з тым, каб жывёла магла падайці к вадзе, але не магла заходзіць і тым забруджаваць вадапой. Месцы для купаньня жывёлы павінны быць асобна ад ад вадапояў.

Пашы і асабліва вадапоі не павінны быць месцамі для свалкі трупаў жывёлы, або іншых адкідаў. Трэба памятаць, што гэта можа быць прычынай розных хвароб. Трэба сачыць за тым, каб і сама паша ня была прычынай хваробы жывёлы: з надыходам замаразкаў трэба выганяць жывёлу на пашу толькі пасьля таго, калі сойдзе іней; на канюшынныя або люцэрнавыя пашы жывёлу можна выганяць толькі тады, калі з палёў зьнікне раса. Калі ня трымацца гэтых правіл, дык назіраюцца выкідкі, уздуцьце бруха і нават падзёж жывёлы. Асабліва трэба сачыць за здароўем жывёлы пры пасьбе па балотах, лясох або балоцістых алешніках. Гэтыя пашы могуць быць прычынай распаўсюджанай у БССР хваробы жывёлы—„крывавай мачы". Трэба зусім унікаць такіх шкодных плошчаў пашы і прымаць меры да іх палепшаньня, у першую чаргу, з санітарнага боку. Лепшай мерай для паляпшэньня такіх пашаў будзе іх асушэньне.

Каб не псаваць пашу, ня трэба выганяць жывёлу на пашу (асабліва сырую, балоцістую) пасьля вялікіх дажджоў, пакуль яна не прасохне, бо інакш сырыя пашы хутка прабіваюцца жывёлай, зьяўляецца шмат ямак, куды затаптваецца і трава. У такіх выпадках паша хутка псуецца, зьяўляюцца куп'ё, сьметнякі, зьмяншаецца травастой і інш.

Пераход ад стойлавага ўтрыманьня жывёлы да пасьвішчнага павінен праходзіць паступова. Асабліва гэта датычыцца маладняку і нават дарослай жывёлы ў тых гаспадарках, дзе практыкуецца кармленьне жывёлы ўзімку выключна сухімі кармамі, без сакавітых. Рэзкі пераход ад стойлавага ўтрыманьня да пасьбы звычайна выклікае розныя хваробы, як разачка (панос) і інш. Каб ня было такіх зьявішч, трэба ў першыя дні пасьбы выпушчаць жывёлу на пашу толькі на некалькі

гадзін, паступова павялічваючы час пасьбы. А яшчэ лепш даваць жывёле за некалькі тыдняў да пашы павялічаную норму сакавітых кармоў—бульбы, караньплодаў і сіласаў. Тую-ж паступовасьць трэба захоўваць і пры пераходзе ад пасьвішча да стойлавага ўтрыманьня: за тыдзень да спыненьня пасьбы трэба падкармліваць жывёлу сухімі кармамі (сена, салома) у стойлах, павялічваючы дачу па меры скарачэньня часу пасьбы. Наогул, на працягу пасьбішчнага пэрыяду трэба час-ад-часу даваць жывёле сухія кармы, як дыэтычны корм. Асабліва гэта павінна практыкавацца пры пасьбе жывёлы на сырых пашах і ў дажджлівае надвор'е.

Для поўнай забясьпекі жывёлы кармамі ў пасьвішчны пэрыяд, у выпадках не задавальненьня яе пашай, трэба арганізаваць падкормку жывёлы. Сьвіньні, як правіла, павінны атрымліваць падкормку ў стойлах моцнымі кармамі. Коням, у залежнасьці ад нагрузкі работы, даецца падкормка, звычайна, у выглядзе аўса. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на падкормку малочнай жывёлы і цялят. Маладняк старэй году і ялаўкі ў нашых умовах, за рэдкімі выключэньнямі, у пасьвішчны пэрыяд падкормкі не патрабуюць. Цяляты павінны падкармлівацца ўвесь пасьвішчны пэрыяд моцнымі кармамі ў колькасьці, залежачай ад узросту цялят і становішча пашы. Дойныя каровы ў нашых умовах патрабуюць падкормкі, асабліва ў канцы мая і ў чэрвені месяцы. Можна лічыць, што паша ў нашых умовах забясьпечвае кармамі сярэднюю карову (18—20 пуд. жывой вагі) з удоем каля 5-6 кілёграм у суткі. Значыць, каровы з удоем звыш 5-6 кілёграм павінны атрымліваць падкормку ў выглядзе моцных кармоў, з разьліку па аднаму кілёграму на кожныя 3 кіл. малака, або 4-5 кілёграм зялёнага корму, або сіласу.

Новацельныя каровы з удоем звыш 10—12 кілёграм у суткі павінны атрымліваць падкормку ня толькі ў выглядзе травы або сіласу, але абавязкова і моцнымі кармамі.

Пры пасьбішчным утрыманьні трэба зьвярнуць увагу на дачу солі для ўсей жывёлы. Наколькі вялікая бывае патрэбнасьць жывёлы ў солі кожнаму гаспадару добра вядома: жывёла з вялікай ахвотай паедае ўсё салёнае, ліжа тыя месцы, дзе пападаецца соль. Недахоп солі дрэнна адбіваецца і на прадукцыйнасьці жывёлы. Пры дачы солі неабходна выходзіць з наступных патрэбнасьцяй для рознага віду жывёлы ў суткі: коням—15—20 грам, каровам—20—40 грам, авечкам і сьвіньням да 10 грам на галаву.

Урэшце, трэба адзначыць, што правільная арганізацыя пасьбы жывёлы ў значнай ступені залежыць ад пастуха. Пастух павінен умець найбольш правільна і поўна выкарыстоўваць пасьвішчную плошчу. Добры пастух з раніцы, калі жывёла больш галодная, трымае яе на больш дрэнных вучастках, потым дае адпачынак, гоніць на вадапой і пасьля пушчае на лепшыя вучасткі пашы. Дрэнны пастух ганяе жывёлу па ўсёй тэрыторыі пашы, распушчае яе на большай плошчы, або топчацца на адным месцы. Добрыя пастухі кормяць жывёлу „з-пад нагі“, інакш кажучы, пастух вядзе за сабой стада, раскінутае ў рад і паступова адходзіць, прапушчаючы жывёлу на новыя вучасткі пашы. Роля пастуха заключаецца ня толькі ў тым, каб добра накарміць жывёлу, але і ў тым, каб пільна сачыць за здароўем жывёлы, падаючы, калі будзе патрэбна, першую дапамогу.





# У ПАХОД ЗА ПАЛЕПШАНЬНЕ МЯСЦОВАЙ ЖЫВЁЛЫ



Будуюць сілосную вежу і хлеў для кароў у камуне „Герольд" каля ст. Барыбіно Ряз.-Ур. ж. д.

## ЗА СІЛАС

*Сіласаваньне зьяўляецца ня толькі найбольш надзейным сродкам вырашэньня кармовай праблемы, але і падрыхтоўвае шлях стварэньня аграмаджанай жывёлагадоўчай гаспадаркі.*

(З адозвы Наркома Земляробства СССР тав. Якаўлева да ЦК УсеЛКСМ).

*Пакрыем усю рэспубліку сілоснымі вежамі, траншэямі і ямамі.*

(З адозвы Наркома Зямляробства БССР тав. Рачыцкага да ЛКСМБ).

Разьвіцьцё жывёлагадоўлі БССР мае першачарговае значэньне. Улічваючы гэта, студзеньскі Пленум Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б паставіў баявую задачу перад усімі партыйнымі, савецкімі і каапэрацыйнымі органамі дабіцца ў самы кароткі час рашучага пералому ў справе павялічэньня стада жывёлы і палепшаньня яе якасьці.

Адно з грунтоўных пытаньняў, у якое ўпіраецца разьвязваньне гэтай важнай галіны сельскай гаспадаркі ў БССР, гэта *кармовае.* Толькі тады з посьпехам будзе выканана і перавыканана заданьне пленуму ЦК па гэтаму пытаньню, калі будзе належным чынам арганізавана кармовая база ў калгасах, саўгасах і індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках.

Раней імкнуліся палепшыць жывёлагадоўлю, напр., малочнае стада, заводам чыстапароднае жывёлы, найбольш замежнае. Зразумела, пародзістая жывёла дае значны прыбытак. Але трэба паставіць пытаньне чаму? А потым і другое: ці прыдатна наша мясцовая жывёла для палепшаньня, для атрыманьня ад яе высока-прадукцыйнага статку, прыбытковага, а не такога як раней, калі часам трымалі жывёлу абы больш лікам, таму што патрэбен гной у гаспадарцы?

Адказ вядомы. Калі куплялася пародзістая жывёла, ды яшчэ замежная, за якую плацілася ў некалькі разоў больш чым за мясцовую, дык догляд за ёю быў таксама ў шмат разоў лепшы. А калі яе акінуць так як мясцовую, тады і яна з цягам часу пачала-б зьмяншаць удоі, а то і зусім магла-б заняпасьці. Ї гэта тым больш, што да звычайных нашых умоў утрыманьня як у хлеве, гэтак і на пашы, завадзкая, прывозная жывёла не прыстасавалася. Завадзкая жывёла, замежная—заўсёды больш далікатная чым тая, што з даўняга часу гадавалася ў



Бык вытворца мясцовай пароды колгасу „імя Карла Маркса“ (Трасьцянецкі с.-савет).

гэтых мясцох. А як стварылася тая ці іншая замежная парода? Вядома, шляхам выбару на працягу шмат гадоў усе лепшых і лепшых кароў на развод і *добрым доглядам за ёю як у хлеве, гэтак і на пашы.*

Відавочна, што нашы мясцовыя каровы таксама прыдатны да палепшаньня. Аб гэтым сьведчаць шматлікія досьледы, якія праведзены з мясцовай жывёлай дасьледчымі станцыямі і паасобку аграномамі ў розных гаспадарках.

Для прыкладу ўзяць хоць-бы досьледы, праведзеныя на Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі з нашай простай, так званай, палескай буйнай рагатай жывёлай. Станцыяй было куплена на местачковых кірмашох 96 звычайных сялянскіх кароў, палесчанак. Жывая вага купленых кароў, у сярэднім, была каля 262 кілёгр. (16 пуд.). Малака яны давалі ў пачатку досьледу, нават скора пасьля ацёлу, у сярэднім 8,2 кілёгр. у суткі (20 фун. у дзень, ці 120 вёдзер у год). Пасьля трох год утрыманьня гэтых палескіх кароў на станцыі, з належным кармленьнем і адпаведным утрыманьнем, сярэдні ўдой ад каровы стаў 14,74 кілёгр. у суткі (36 фун. у дзень ці 220 вёдзер у год). Па тлустасьці малако ад гэтых кароў было лепшае, чымся некаторых пародзістых, напрыклад, яраслаўскіх. Павялічылася пры гэтым і сярэдняя вага каровы, замест 226 кілёгр. у часе закупкі стала 335 кгр. (20½ п.).

*Галоўную ролю ў справе палепшаньня гэтых звычайных кароў адыграла кармленьне.*



Такі-ж досьлед праведзены над закупленай на рынку ў сялян буйнай рагатай жывёлы Вучэбнай фэрмай Горацкай с.-г. акадэміі. Ад добрага, багатага кармленьня,—паведамляе дацэнт акадэміі тав. Паўлаў, які праводзіў памянёны досьлед—некаторыя простыя, непалепшаныя мясцовыя каровы павялічылі ўдой у два разы. Поўную малочную продукцыйнасьць карова можа паказаць толькі тады,—дадае ён,—калі карова досыць сытая, калі ў пэрыяд сухастою, тэрмін якога ня меней 2-х месяцаў, карова добра кармілася.

Мясцовыя непалепшаныя каровы прыбавілі малака, по досьледу т. Паўлава ў сярэднем на 20 проц., а ўсяго ў сярэднім далі 2.300 кгр. (180 вёдзер) у год. Мясцовыя-ж каровы палепшаныя скрыжаваньнем з пародзістымі, далі ў выніку добрага кармленьня, 330 кілёгр. (260 вёдзер) малака ў год, павялічыўшы ўдойлівасьць на 38—70 проц.



**Стада кароў мясцовай пароды сельска-гаспадарчай камуны „Чырвоны Кастрычнік“, Лагойскага раёну, Менскай акругі**

*(Фота І. Рулька і Яшчарава).*

Прыклады яскрава сьведчаць аб карысьці для гаспадаркі добрага кармленьня малочнага статку, ёсьць для чаго патурбавацца аб назапашаньні дастатковай колькасьці кармоў для жывёлы.

Яшчэ раз заўважаем, што ў вырашэньні кармовай проблемы для жывёлы значную ролю павінен адыграць сілас. Пры належнай арганізацыі справы сіласаваньня, калі кожная колектыўная, савецкая і бядняцка-серадняцкая гаспадарка скарыстае ўсю тую зяляніну, якую толькі можна сіласаваць, дык тады кармовая праблема на палову будзе вырашана.

Улічваючы аграмаднае значэньне сіласаваньня для сельскай гаспадаркі, а разам і для народнае гаспадаркі краіны, Савецкая ўлада, у прыватнасьці Нарком Землеробства СССР т. Якаўлеў і нарком землеробства БССР т. Рачыцкі, зьвярнуліся са спэцыяльнымі адозвамі да камсамольскіх арганізацый, каб яны сваім актыўным удзелам дапамаглі вырашэньню пабудовы дастатковай колькасьці сілосных вежаў,

ям і траншэй для сіласаваньня корму. Вызначана засіласаваць у БССР у гэтым-жа годзе ня меней 1 мільёну тон сіласнай масы. Патрэбна для гэтага пабудаваць 160 сілосных бакштаў, ды неабходна пабудаваць 22.000 сілосных траншэй.

Наркамземам БССР прыняты належныя загады для ажыцьцяўленьня вызначаных мерапрыемстваў. Камсамол з свайго боку на адозву



**Пабудова цаглянай сілоснай вежы ў калгасе ёмістасьцю ў 650 тон (40.000 пуд)**



**Цагляная сілосная вежа ў закончаным выглядзе**

адказаў поўнай гатоўнасьцю прыкласьці ўсе свае сілы для таго, каб справу кармаздабываньня бальшавіцкім тэмпам рухнуць уперад. *Па 30 сілосных ям для кожнай камсамольскай ячэйкі* саўгасаў, калгасаў і вясковых організацый вызначае арганізаваць ЦК ЛКСМБ, прыцягнуўшы да гэтай справы бядняцка-серадняцкае сялянства. Вырашэньнем гэтага заданьня камсамол пакажа здольнасьць выкананьня дырэктыў свае арганізацыі.

Мясцовыя арганізацыі ЛКСМБ у адзін голас адказалі: *„Усе як адзін ў паход за сілас“*.

Поруч з іншымі спосабамі назапашаньня корму для жывёлы на зіму, нарыхтоўка яго ў зялёным выглядзе, шляхам сіласаваньня, дапа-

можа ня толькі пазбавіцца ад небясьпекі апынуцца гаспадарцы бяз корму пад весну, але дасьць мажлівасьць палепшыць кармленьне жывёлы ва ўвесь час зімовага стойлавага ўтрыманьня. Пры кармленьні сіласам павялічыцца ўдойлівасьць кароў; яны, як і коні, сьвіньні і авечкі, якіх таксама карысна карміць сіласам, адчуваюць сябе бадзёра, лепш ператраўліваюць розныя грубыя кармы і з большым прыбыткам аплачваюць догляд.

*У чым сэнс добрага ўплыву сіласу?* Добры ўплыў сіласу на здароўе жывёлы тлумачыцца тым, што ў ім захоўваюцца непарушанымі жыцьцядзейныя ўласьцівасьці зялёнае масы, так званыя „вітаміны“.

Гэтыя вітаміны зьяўляюцца часткай асобных, *дадатковых матар'ялаў* у складзе расьліны. Калі вітамінаў у корме не хапае, дык жывёла і пры дастатковым кармленьні адчувае сябе дрэнна. Жывёла пры нястачы ў корме вытамінаў ня мае прагі да ежы, адчувае сябе млява і хутчэй можа захварэць. У сіласаваным-жа корме склад расьліны больш набліжаецца да травы, г. зн. склад расьліны меней парушаны. Такім чынам сіласаваны корм, як і наогул зеляніна, дзейнічае на арганізм жывёлы і як лекавы сродак.

Бяручы пад увагу ўсю каштоўнасьць сіласу—трэба прыкласьці ўсе магчымасьці да выкананьня вызначаных партыяй і савецкай уладай мерапрыемстваў па гэтай справе.

С. Хоміч.

---

# Як калгасам і саўгасам прыгатаваць сілас у яме-„траншэі“

На сёньняшні дзень пытаньне аб сіласаваньні ў БССР стаіць ужо так яскрава, што не патрабуе асаблівай агітацыі і папулярызацыі самой ідэі сярод працоўных. Зараз кожны калгасьнік і кожны саўгасьнік праконаны, што сілас—гэта найлепшы натуральны арганізатар грамаджанай жывёлагадоўлі. Разам з тым кожны таксама ведае, што бяз сіласу няма рацыянальна пастаўленай жывёлагадоўлі, як няма і прыбытковае малочнае гаспадаркі.

І мы бачым, што шмат дзе і ў нас сіласаваньне, як спосаб загатоўкі на зіму сакавітага корму для жывёлы, становіцца рэальным фактам. Дзякуючы энэргіі пачынальнікаў гэтай справы, мы налічваем не адзін дзесятак вежаў і ям, у якіх ужо па другому і трэцяму году ідзе сіласаваньне.

Аднак, належнага і шырокага руху сіласаваньне ў нас яшчэ не набыло, дзякуючы слаба падрыхтаванаму тэхнічнаму боку справы, які ўпіраецца, як вядома, у недахоп патрэбных будаўнічых матар'ялаў, у адсутнасьць спэцыяльных на сілас культур, і ў недастачу ведаў, як абыйсьціся для пачатку справы без вялікіх затрат і як найпрасьцей атрымаць сілас у гаспадарцы [1]). Тым вастрэй зараз паўстала гэта

---

[1]) Больш падрабязна аб сіласаваньні глядзі ў кніжках: 1) Пабудова сіласаў у калгасаў і саўгасах“ і 2) Тэхніка сіласаваньня і кармленьня жывёлы сіласам“. Выд. 1930 г. БДВ.

пытаньне ў нас, што згодна пастановы Наркамзему сёлета на зіму не павінна заставацца ніводнага калгасу і саўгасу бяз сіласу.

Як-жа знайсьці гэты прасьцейшы і хутчэйшы выхад, і як забясьпечыць кожную гаспадарку сіласам пры даных умовах?

Выхад з гэтага становішча дае шырокая практыка сіласаваньня, якая паказвае, што сілас можна атрымаць, у разе неабходнасьці, з бульбоўніку, бурачніку, асакі і з рознай зеляніны, якая заўсёды застаецца ў кожнай гаспадарцы ня выкарыстанай, не гаворачы ўжо пра канюшыну, віку з аўсом, кіяхі і сланэчнік. А з другога боку, тая-ж практыка даводзіць, што сіласаваць зеляніну можна ня толькі ў высокіх вежах (башнях), але і ў простых ямах і асабліва ў доўгіх і ня глыбокіх ямах,—так званых сіласных „траншэях“ (мал. 1).



Мал. 1. **Сілосная траншэя з прымайстраваньнем для мэханічнай загрузкі і выгрузкі сіласнае масы. У версе траншэі мураваныя сьцены; дах драўляны. Падобную яму, больш простую і танную, збудаваць лягчэй і мэтазгодней. Накрываецца простая яма саломаю. Глыбіня простай ямы робіцца амаль у рост чалавека. Даўжыня па 1/2 мэтра на карову**

Па нашай думцы, сьцьверджанай ужо некаторай практыкай, сіласаваньне ў „траншэях“ (у доўгіх, ня шырокіх і ня глыбокіх ямах) мае шмат пераваг перад сіласаваньнем у круглых і глыбокіх ямах.

*Па-першае*, траншэя рыецца няглыбака і ня болей як на 2 1/2-3 мэтры; значыць лягчэй выбраць для яе месца, дзе можна ўрыцца ў зямлю на такую глыбіню, не рызыкуючы дастаць да грунтавой вады, і пры такой глыбіні даставаць сілас з ямы ня цяжка, шмат лягчэй, як з глыбокай ямы.

*Па-другое*, траншэя рыецца ня шырокаю, ня шырэй 3-3 1/2 мэтраў паміж бакавымі сьценкамі (па сярэдзіне сьценак), пры дас аваньні з яе сіласу менш яго псуецца і менш ідзе ў патрату, пры тымжа, вузкую траншэю лягчэй накрыць, чым шырокую.

*Па-трэцяе*, рыць траншэю можна любой даўжыні, з разьліку 1/2 мэтра на 1 карову (на 6 месяцаў корму), а пры вялікай колькасьці жывёлы ў гаспадарцы можна залажыць некалькі такіх траншэй, даўжынёю па 15—20 мэтраў кожная. Закладка некалькіх траншэй дае тую перавагу, што загружаць і разгружаць кожную з іх можна ў розную пару, пры чым, у нятронутай яме сілас даўжэй будзе захоўвацца і менш псавацца.

*Нарэшце*, вырыць траншэю, з дапамогаю плуга і коннай лапаты, значна лягчэй і скарэй, чым вырыць глыбокую круглую яму на тую самую колькасьць сіласу. Тры чалавекі, пара коняй, з дапамогаю плуга, коннай лапаты і пары звычайных рыдлёвак, могуць вырыць траншэю да 20 мэтраў даўжынёю праз 2-3 дні.

У мінулым годзе ў такой яме—траншэі саўгас „Вялікая Сьляпянка“ БНДІ, пад Менском, залажыў для спробы сілас з бурачніку. Сілас быў адчынены ў лютым месяцы 1930 г. і аказаўся вельмі добрым.



Мал. 2. Уздоўж ямы-траншэі зямля пульхніцца плугам і адкідаецца на сярэдзіну



Мал. 3. Сьледам за плугам пускаецца конная лапата, якая выбірае з траншэі ўзараную зямлю



Мал. 4. Дно траншэі дасьледуецца на грунтовую ваду сьвідарам

## Выбар месца і плян ямы-траншэі

Выбар месца і грунту для ямы-траншэі мае вялікае значэньне. Грунт павінен быць цьвёрды і сухі, найлепш гліністы. Наогул, кожны цьвёрды грунт, у якім можна вырыць сухі склеп, будзе адпавядаць і мэтам сілоснай траншэі.

Галоўнае, каб грунтавыя воды не падыходзілі-б пад дно траншэі, і каб вада зьнізу ў яе не нацягвала з зямлі і каб зьверху таксама не затапляла. Найбольш адпаведным месцам для таго заўсёды будзе ўзгорак, асабліва калі ён недалёка ад аборы. У разе патрэбы, вышыня грунтовай вады пад сподам ямы дасьледуецца спэцыяльным земляным сьвідарам, або пракопваюцца кантрольныя шурпы (мал. 4).

Другім ня мала важным фактам зьяўляецца плян траншэі, паверхня сьценак і канцы траншэі.

Вышэй ужо ўпаміналася аб памерах траншэі. Для ілюстрацыі тут падаецца плян пабудовы траншэі ў разрэзе (мал. 5).




Мал. 5.

На пляне паказаны глыбокія траншэі, шырыня яе ў дне і шырыня ўверсе. Апрача таго, зьвяртае на сябе ўвагу нахіл сьценак зьверху ў ніз. Такі нахіл сьценак ня толькі дае магчымасьць зеляніне шчыльней лажыцца каля сьценак, але і самыя сьценкі стаяць мацней, зямля з іх ня так абсыпаецца і не так забруджвае сілас. На малюнку паказаны яшчэ спосаб накрыцьця сіласу мокраю саломенаю сечкаю таўшчынёю да 30 *см* і спосаб задзелкі траншэі зьверху.

Часамі такую траншэю абшываюць яшчэ па краёх ямы дошкамі, асабліва ў сыпкім пескаватым грунце, тады яна даўжэй служыць і не падтапляецца зьверху вадою (гл. мал. 7).

Адзін канец траншэі робяць глухім і зачыненым таксама з нахільнаю ўніз сьценкаю, а другі канец пакідаецца да загрузкі і ўтрамбоўкі зеляніны разрытым і адчыненым для заезду ў траншэю возу з зелянінаю, для заводу каня ці нават трактару (падаслаўшы дошкі) для

ўтрамбоўкі ў яме зеляніны, а таксама і для лягчэйшага прыступу да траншэі пры даставаньні сіласу.

Пасьля, як траншэя будзе запоўнена зелянінаю і добра ўтрамбавана, гэты канец траншэі задзелваецца зямлёю ці зашываецца дошкамі, пры чым у драўлянай сьценцы часта робяць дзьверы, праз якія ўваходзяць у траншэю і дастаюць зімою сілас, выбіраючы яго кожны раз акуратна зьверху да самага нізу, да дна (мал. 6).

Зразумела, што заканчэньне траншэі можа быць самым розным, у залежнасьці ад склону і рэльефу месца, дзе робяць траншэю.

Для наданьня большай трываласьці такой сілоснай пабудове і ў залежнасьці ад якасьці грунту, яму-траншэю часамі альбо цэмантуюць кругом, альбо абшываюць наўкола сьценкі дошкамі і робяць сталы над ёю дах (гл. мал. 2).

Але ў добрым, цьвёрдым грунце, дзе зямля шчытная, сьценкі траншэі трымаюцца па некалькі гадоў добра і без усялякай абліцоўкі.

## Тэхніка сіласаньня зеляніны

Уся тэхніка сіласаваньня складаецца з 5-ці асноўных момантаў: 1) збору зеляніны ў полі, 2) падвозкі яе пад вырытую папярэдня яму-траншэю, 3) з дробнай рэзкі буйной зеляніны і загрузкі яе ў яму, 4) стараннай утрамбоўкі парэзанай зеляніны ў яме і 5) у накрыцьці і ў задзелцы ямы-траншэі.

Збор зеляніны ў полі (асабліва бульбоўніку ці бурачніку)—адна з каштоўных і адказных прац. Пры адсутнасьці мэханізацыі, прыходзіцца збор зеляніны і ачыстку яе ад пяску і зямлі рабіць рукамі і гэта больш за ўсё адбіваецца на кошце тоны сіласу, дзякуючы затраце рабочае сілы. Аднак, ня гледзячы на некаторую затрату працы, збор зеляніны павінен быць праведзен як мага стараньней і як мага чысьцей, каб зеляніна была сьвежаю і чыстаю ад зямлі і пяску. Толькі з чыстае зеляніны выходзіць дробы сілас.



Мал. 7. Утрамбоўка сіласнае масы канём. Сілосная траншэя абшыта дошкамі. Відаць зьверху элеватар для мэханічнай загрузкі сіласу

Зеляніна на сілас павінна зьбірацца ў поўную пару сьпеласьці і быць пэўнай вадзяністасьці, павінна зьмяшчаць ня ніжэй 65 проц. і ня вышэй 75 проц. вады. На скорую руку вадзяністасьць зеляніны пазнаецца так, што бярэцца пучок зеляніны і перакручваецца 3-4 разы ў руках; вада пры гэтым павінна праступаць з зеляніны рэдкімі каплямі,—гэта і будзе грубым паказчыкам патрэбнай вадзяністасьці зеляніны. Пры гэтым патрэбна меџь на ўвазе стан надвор'я, бо пры цёплай і сухой пагодзе вадзяністасьць у зрэзанай зеляніне хутка зьніжаецца.

Уся сабраная з поля зеляніна павінна быць у той-жа самы дзень зьвезена з поля, зрэзана і ўтрамбована ў яме. У залежнасьці ад гэтага

павінна быць адпаведным чынам арганізавана ўся праца ў гаспадарцы на збору зеляніны, па падвозцы яе пад яму, так і па зрэзваньню яе па сіласарэзцы і загрузцы ямы, з абавязковаю і добраю ўтрамбоўкаю зеляніны ў яме.

Зрэзваньне буйнай зеляніны, асабліва з таўставатым сьцяблом, найлепш рабіць на сіласарэзцы, з адпаведнаю прапускною здольнасьцю яе. Зеляніна зрэзваецца на велічыню 1-2 см., бо толькі дробна зрэзаная яна шчытна ўкладаецца ў яме і менш утрымлівае ў сабе паветра. А чым менш паветра застаецца ў зеляніне пры загрузцы, тым лепшы выходзіць сілас.

У разе адсутнасьці спэцыяльнае сіласарэзкі, можна карыстацца прыстасаванай сячкарняю. Трэба толькі старацца зрэзаць і ўтрамбаваць усю зьнятую за дзень зеляніну, не пакідаючы яе ляжаць на другі дзень, бо тады зеляніна вяне, уграецца і сілас выходзіць няцікавы, у крайнім-жа выпадку,—бурачнік, напр., сіласуюць нярэзаны, але добра ўтрамбаваны.

Накрыцьцё сіласу і задзелка ямы—рэч не малаважная. Звычайна яму загружаюць зелянінаю зьверхам, на які мэтр вышэй берагоў яе.



Мал. 6. **Паказана драўляная задзелка канца траншэі, у якой зроблены дзьверы**

Робіцца гэткі запас зьверху дзеля асадкі зеляніны ў яме. Паверсе зеляніну накрываюць пластом *мокрае* саломеннае сечкі, да 30 см. ташчынёю, па саломе кладуць дошкі і прыціскаюць цяжарам (каменьнямі), бярвеньням і г. д., каб прысьпешыць асадку зеляніны.

Дзён праз 5-6, калі зеляніна асядзе ў яме, і апусьціцца нават ніжэй берагоў ямы, яму дагружаюць зелянінаю, зьверху накрываюць мокраю сечкаю і задзелваюць яму наглуха. Пры гэтым, альбо кладуць поперак ямы жэрдкі (гл. мал. 5), па якіх завальваюць саломаю, каб ня ўбіўся мароз у яму, альбо па пласту мокрае сечкі кладуць пласт мятае гліны, ці пакрываюць замлёю і наверх навальваюць каменьня ці інш. цяжару.

Пры задзелцы ямы стараюцца так ізаляваць зеляніну, каб да яе не даходзіла паветра і каб яна не прамярзала. Першаму дапамагае пласт мокрае сечкі зьверху зеляніны, а супроць марозу абараняе тоўшча зямлі і саломы паверх ямы. Часамі над ямаю робяць дах, як над кап-

цамі, але гэта не абавязкова і толькі ўдаражае справу, асабліва пры лёгкай зіме.

Гэткі спосаб сіласаваньня носіць назву „халоднага“ і, дзён праз 10-14 пасьля закладкі, сілас можна ўжо пачаць страўліваць жывёле, робячы гэта з такім разрахункам, каб сіласу хапіла праз усю зіму.

Сілас даецца каровам пасьля дойкі, каб малако не нацягвала сіласнага паху.

Цельным каровам дача сіласу спыняецца месяцы за 1 1/2 да ацёлу.

Добры сілас мае прыемны хлебны альбо вінны пах. Сапсуты сілас, які пахне воцатам, альбо загнілы і сьмярдзючы,—шкодны жывёле.

Горкі, с.-г. акадэмія. Кат. Зоогігіены і Вэтэрынарыі. **І. М. Серада.**

---

# Сіласуйце пустазельле на корм жывёле

Трэба прызнаць, што і ў сучасны момант у нас палі занадта засьмечаны пустазельлем. Каму з гаспадароў не вядома амаль што суцэльнае акрыцьце яравых пасеваў (аўса, ячменю, лубіну) і азімага жыта ў год пасеву вельмі прыгожымі жоўтымі кветкамі сьвірэпкі. Усім вядома наколькі шкодзіць гэтае, хоць-бы і прыгожае, пустазельле. Па маіх назіраньнях авёс і лубін на аполатых вучастках разьвіваюцца на 50 і больш процантаў лепш, чымся на неаполатых. Больш гэтага, нявыпалатая сьвірэпка абсемянее палі і тады яна кожны год будзе ўсё больш і больш засьмечваць пасевы. У Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі ёсьць закон, згодна якога моцна засьмечаныя сьвірэпкай пасевы павінны пераворвацца.

Ня меншую шкоду прыносіць і такое пустазельле, як лебяда, асот і г. д. Як вядома месцам распаўсюджваньня пустазельля зьяўляюцца межнікі між палёў, межнікі каля дарог і канавы. Згодна закону аб аграмінімуме гэтыя месцы патрэбна абавязкова скошваць. Але гэтага часта ня робяць ня толькі сялянскія індывідуальныя гаспадаркі, а нават саўгасы і калгасы. Незацікаўленасьць зьнішчэньня пустазельля на межніках, у канавах і г. д. ёсьць вынік таго, што гаспадары не ўявілі непасрэднай карысьці, якую можна атрымаць з масы скошанага пустазельля. Ня трэба толькі зацягваць з часам касьбы на гэтых асяродках распаўсюджваньня пустазельля, бо ў праціўным выпадку і сена атрымліваецца больш грубое, да і палі засьмечваюцца насеньнем адкрасаваўшага пустазельля. Турская с.-г. дасьледчая станцыя ў 1929 г. зрабіла поўную полку ўсіх культурных расьлін. Галоўнай сьмяцьцёвай расьлінай на палёх гэтай станцыі зьяўляецца сьвірэпка. Усю сьвірэпку што атрымалі пры поліве—засіласавалі. Для падрыхтоўкі сьвірэпкі да сіласаваньня, яе пры полцы неабходна абтрусіць ад зямлі. Калі выпалатая сьвірэпка крыху завяне, яна пасьля гэтага прывозіцца да сіласарэзкі (або к сячкарні), рэжацца і набіваецца ў сіласную яму, або вежу.

Мы спрабавалі ў мінулым годзе закладваць сьвірэпку ў сілас і не парэзаную—цэлымі расьлінамі. У абодвых выпадках сілас атрымаўся вельмі добры. Такім чынам наўрад ці ёсьць рахунак рэзаць такое мяккае пустазельле, як сьвірэпка—яе ўпаўне магчыма скарыстоўваць на сілас і ў цэлым выглядзе.

Гэта патрэбна запамятаваць усім калгасам і саўгасам і не дапусьціць гінуць дарма масе пустазельля, што ў сваю чаргу пазбавіць нашы палі ад засьмечваньня. **М. Драздоў.**

---

# ПРА ВЫСТАЎКУ

## Падрыхтоўка да Ўсебеларускай выстаўкі на задворках

*(Агляд па Бабруйскай акрузе)*

Ня будзем застанаўлівацца на дырэктыўных прапановах як Савету Народных Камісараў БССР, гэтак і Галоўвыстаўкому па пытаньні практычнае падрыхтоўкі і працы ў напрамку прыняцьця канкрэтных мерапрыемстваў да разгортваньня ўвагі ўсёй савецкай грамадзкасьці да своечасовага адчыненьня выстаўкі, бо гэтых прапаноў маецца шмат. Тут у кароткіх рысах разгледзім, як-жа гэтая справа абстаіць у Бабруйскай акрузе.

Аказваецца, што ня зусім добра. Самі райвыканкомы і райвыстаўкомы акругі яшчэ і дагэтага часу не зразумелі важнасьці правядзеньня выстаўкі. Яны не адчуваюць адказнасьці за гэтую працу, аб чым сьведчыць тое, што даныя вымовы Сьвіслацкаму і Жлобінскаму райвыстаўкомам, абвешчаныя ў друку, не далі аніякага зьдзьвігу ў працы.

У большасьці раёнаў падрыхтоўчыя пляны ня складзены. Справаю выстаўкі ніхто не займаецца, за выключэньнем толькі некаторых аграномаў. Тлумачыцца гэта тым, што з боку акрземаддзелу адсутнічала належная ўвага гэтай працы і апошняя, у большасьці сваёй, праходзіць галоўным чынам па лініі акрвыстаўкому, да прапаноў якога мейсцы адносяцца няўважліва. З прычыны гэтага ў 1929 годзе не сабрана належнай колькасьці экспанатаў па рольніцтву, а там, дзе яны сабраны, зьяўляюцца надзвычайна нізкай якасьці.

У Чырвона-Слабодзкім раёне сабраныя экспанаты нікуды не адасланы. Дый зачым-жа іх адсылаць, калі ад гэтых экспанатаў засталася толькі адна назва. Іх паелі мышы. Па маёй думцы такія адносіны да экспанатаў трэба расцэньваць ня іначай як шкодніцтва.

Падрыхтоўка асобных галін сельскай гаспадаркі па лініі самога акрземаддзелу, як земляўпарадкаваньне, агнятрывалае будаўніцтва, жывёлагадоўля і вэтэрынарыя працякае таксама надзвычайна марудна. У адносінах загатоўкі экспанатаў прапушчаны ўжо ўсе ўстаноўленыя тэрміны, таму ёсьць пагроза, што экспанаты будуць дастаўлены на выстаўку дрэннай якасьці.

Ня лепш абстаіць справа з падрыхтоўкаю і абагуленага сэктару Акркалгассаюзу, Акрмалжывёлсаюзу, Акрпаляводсаюзу і Акрсадсаюзу, якімі таксама прапушчаны ўсе тэрміны.

Праўда, па лініі мясцовай прамысловасьці што-кольвечы робіцца, затое па лініі прадпрыемстваў дзяржаўнага значэньня справа ідзе дрэнна. Лесаапрацоўчы камбінат падрыхтоўчую працу належным чынам не арганізаваў і сучаснае становішча апошняй немагчыма дасканала высьвятліць. Ня лепш па швэйнай фабрыцы, заводу „Адэрыха“ і іншых прадпрыемствах акругі.

Разгортваньне думкі грамадзкасьці, падрыхтоўка экскурсантаў да выстаўкі і наогул узьняцьце актыўнасьці насельніцтва ня маецца, у сувязі з чым як сама падрыхтоўка, а таксама і выстаўка могуць

не адыграць патрэбнае палітычнае ролі. Акрпрафбюро і Акругком камсамолу падрыхтоўку грамадзкае думкі навокал выстаўкі праводзяць зусім слаба. Сельвыстаўкомы, камісіі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, як з пачатку іх арганізацыі дрэнна працавалі, так дрэнна працуюць і на сёньняшні дзень.

Вось як на Бабруйшчыне абстаіць справа з падрыхтоўкаю да Усебеларускай выстаўкі. Вынікаючы з усяго гэтага, можна з упэўненасьцю сказаць, што падрыхтоўка да выстаўкі знаходзіцца на задворках.

Калі толькі Бабруйшчына за гэты кароткі тэрмін, які застаўся да выстаўкі, а выстаўка адчыняецца 6 жніўня, не мабілізуе ўсю партыйную, камсамольскую, савецкую, прафэсыйную грамадзкасьць — то станоўчых вынікаў у падрыхтоўцы Бабруйшчына мець ня будзе.

Рабкоры, вяскоры і сьцянкоры павінны будуць зараз-жа прыглядзіцца, што робіцца тымі ўстановамі, альбо прадпрыемствамі, у якіх яны працуюць, у галіне практычнае падрыхтоўкі да выстаўкі. Тых, хто нядбайна адносіцца да гэтае справы, трэба выкраваць з усёю жорсткасьцю ў нашым савецкім і партыйным друку. Экспанаты павінны быць дастаўлены на тэрыторыю выстаўкі сваячасова і поўнасьцю. Ніякіх адгаворак і спасыланьняў на аб'ектыўныя і суб'ектыўныя абставіны не павінны быць.

Усю падрыхтоўку да выстаўкі на ўдарныя тэмпы. С. Л.

---

## Чырвоная беларуская рагатая жывёла на выстаўцы

Мясцовая буйная рагатая жывёла зьяўляецца вельмі ўстойлівай у нашых беларускіх умовах. Пры адпаведнай культурнай працы над ёй, яна прымае добры надворны выгляд, дасягаючы да 30 і больш пудоў жывой вагі і па малочнасьці ня ўступае некаторым культурным пародам.

Палепшаньнем-жа мясцовае жывёлы да рэволюцыі дзе кольвечы займаліся аматары-абшарнікі, але ў не вялікіх памерах. Мясцовая беларуская буйная рагатая жывёла бывае рознае афарбоўкі: белая, чырвона-стракатая, падласая і г. д., але паміж усёй гэтай жывёлы яскрава вылучаецца па надворнаму выгляду, па якасьці і высокай прадукцыйнасьці група з аднакаляровай інтэнсіўна-чырвонай афарбоўкай, таму буйная рагатая жывёла гэтае групы і называецца *чырвонай беларускай жывёлай.* Гэтая жывёла раскідана па ўсіх абшарах БССР. У некаторых мясцох, пад уплывам тых ці іншых фактараў, яна зьмяніла сваё сапраўднае надворнае аблічча, страціўшы тыповую афарбоўку, надворныя формы і г. д. Але яна захавалася ў чыстым выглядзе, з уласьцівымі ёй асаблівасьцямі, на Меншчыне, асабліва ў Самахвалавіцкім раёне, дзе яе налічвалася, па даных перапісу Менскага Акрза за 1929 г.,—3.700 штук.

Асноўным ядром, адкуль атрымлываецца племматар'ял гэтае жывёлы зьяўляюцца племгасы: Калініна, з лікам 251 шт., Русінавічы—256 шт. і Самуэлева—71 шт. Акрамя гэтага, ёсьць па невялікай групе і ў іншых саўгасах гэтага раёну, астатняя-ж чырвоная беларуская жывёла раскідана ў гаспадарках індывідуальнага сэктару.

Яшчэ ў 60-х гадох мінулага стагодзьдзя былі спробы чыстага разьвядзеньня гэтае жывёлы. Так, абшарнік маёнтку Талачын, на Аршан-

шчыне, разводзіў чырвоную беларускую жывёлу, пры чым пачатак статку быў пакладзен набыцьцём кароў і цёлак мясцовай чырвонай пароды. Аднак, далей аматарскай забавы справа гэта не пайшла, бо тут праца патрабавала часу, сродкаў і ведаў, на што абшарнікі ня былі здольны.

Толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, савецкая ўлада прыняла рашучыя захады ня толькі для захаваньня гэтае пароды, але і для яе павялічэньня. Вызначаны племгасы для гадоўлі чырвонае беларускае жывёлы, праводзяцца мерапрыемствы па вылучэньню гнёздаў, дзе яна больш распаўсюджана і ў гэтых мясцох прымаюцца меры для павялічэньня яе пагалоўя і палепшаньня.

Яшчэ ў той час былі заўважаны недахопы гэтае жывёлы, як вузкі таз і грудзі, нізкі зад, таму абшарнікі рабілі спробу паляпшаць яе шляхам



Чырвоныя беларускія каровы племгасу Русінавічы, Самахвалавіцкага раёну

мэтызацыі са швіцамі, адзначаючы ўсё-такі вынослівасьць чырвонае беларускае жывёлы і не падляганьне сухотнаму захворваньню. Такія ўказаньні мы сустракаем у каталёгу выстаўкі 1901 году ў Менску.

Па вестках аграномаў, чырвоная беларуская жывёла і на Аршаншчыне захавалася з даволі пэўнымі, уласьцівымі ёй, адзнакамі. Гэта падмацоўвае думку, што і ва ўсходняй частцы БССР ёсьць значныя падставы для адбору і культурнай работы над мясцовай беларускай жывёлай.

Як культурная парода чырвоная беларуская жывёла ўпяршыню была прадстаўлена на выстаўку ў 1901 годзе ў Менску абшарнікам з маёнтку Ігнацічы, Самахвалавіцкага раёну на Меншчыне, зараз племгас Калініна. Усяго было прадстаўлена 4 каровы, 4 цёлкі і 1 бычок. У той час у яго маёнтку Ігнацічы было 40 штук кароў, акрамя маладняку. У каталёгу выстаўкі 1901 году пішацца наступнае; „парода гэтая сустракаецца амаль што ўсюды ў літоўскіх і беларускіх губэрнях, дзякуючы чаму гэтая парода можа быць названа літоўска-беларускай. Яна напэўна прадстаўляе галіну чырвонай заходня-славянскай пароды, якая распаўсюджана з захаду па басэйнах рэк Віслы і Одэра“.

І далей: „... дзякуючы сваёй надзвычайнай устойлівасьці і прыстасаванасьці да нашых умоў, яна трымаецца шляхам атавізму“. Заўважваецца там і на ўстойлівасьць чырвонае беларускае жывёлы ад усякіх захворваньняў, на яе малую пераборлівасьць у корме і на высокую аплату корму. Другі раз чырвоная беларуская жывёла ўдзельнічала на буйнай выстаўцы ў Маскве ў 1923 годзе. Перад гэтым прафэсар І. І. Калугін зрабіў досьлед гэтае жывёлы, у якім ён указвае, што палепшаная чырвоная беларуская жывёла ёсьць зусім самастойная група, з пэўнымі экстэр'ернымі адзнакамі, якая атрымалася, галоўным чынам, ад мясцовае пярвічнае жывёлы шляхам сэлекцыі (падбору).

Нарэшце Калугін гаворыць „... у гэтым палепшаньні мясцовае жывёлы, якая нясе ў сабе шмат абяцаючых задаткаў малочнасьці, мы бачым шлях падняцьця малочнае жывёлагадоўлі на Беларусі.

Імпэрыялістычная, а потым грамадзянская войны зьнішчылі большасьць культурнае чырвонае беларускае жывёлы, у Самахвалавіцкім раёне і на ўсесаюзнаю выстаўку ў Маскву ў 1923 г. яна была выбрана з рэштак уцалеўшых экзэмпляраў і ўзрошчаных пры Савецкай уладзе.

Такім чынам, у 1930 г. чырвоная беларуская жывёла выступае на буйнай выстаўцы трэці раз. Глядач на Першай Усебеларускай Выстаўцы Сельскае Гаспадаркі і Прамысловасьці ўбачыць групу гэтае жывёлы з племгасу Калініна, Русінавічы і Самуэлева. У Русінавічах з часткай гэтае жывёлы вядзецца мэтызацыя з дацкім чырвоным быком, а ў Калініна і Самуэлева—выключна чыстае разьвядзеньне. Статак Русінавіч у 1929 г. даваў у сярэднім 2385 кгр. малака на галаву за год, а асноўнае ядро яго ў 30 галоў—2640 кгр. Ад кароў племгасу Калініна за 1930 год гадовы ўдой на галаву даходзіў да 3.000 кгр. Тлустасьць малака статку племгасаў Калініна і Русінавіч у сярэднім раўняецца 4,3 проц., а ад паасобных экзэмпляраў даходзіць да 8 проц. Бязумоўна, нам больш карысна разводзіць і пашыраць чырвоную беларускую жывёлу як з боку эканамічнага, гэтак і тэхнічнага, а не траціць уйму грошай на закупку жывёлы за межамі, бо пры належнай працы і выхаваньні, чырвоная беларуская жывёла ня ўступіць замежным пародам ні па колькасьці, ні па якасьці даваемага малака. Калі-ж прыняць пад увагу высокую аплату корму, непераборлівасьць, яе ўстойлівасьць ад заразьлівых хвароб і агульную прыстасаванасьць да нашых умоў, то мэтазгоднасьць яе разьвядзеньня і пераважнасьць перад іншымі пародамі становіцца зусім відавочнай.

Дзякуючы таму, што асноўны ачаг гэтае жывёлы знаходзіцца ў Самахвалавіцкім раёне, пастановай СНК Бел. ад 13 красавіка 1930 г., забаронена вывазіць чырвоную беларускую жывёлу з гэтага раёну, а ўсю закупленую Белмалжывёлсаюзам, перадаваць туды. Менскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту даручана весьці асноўную працу па разьвядзеньню яе ў Самахвалавіцкім раёне, Менскай акругі. Яму-ж і НКЗБ даручана ўжыць усе захады да пашырэньня разьвядзеньня чырвонае беларускае жывёлы праз арганізацыю новых завадзкіх гаспадарак і інш. мерапрыемствы. НКЗБ і НДІ даручае выдаць палажэньне аб стандарце чырвонае беларускае жывёлы.

Як бачым, урадам БССР робяцца ўсе захады да пашырэньня чырвонае беларускае жывёлы, якая займае зараз значнае месца ў ліку культурных парод на Беларусі. Дакладна з гэтай жывёлай глядач пазнаёміцца на Першай Усебеларускай Выстаўцы Сельскай Гаспадарцы і Прамысловасьці ў Менску ў ліпені-кастрычніку 1930 году.

**П. Сяргейчык і І. Крывадубскі.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР пра ўборачную і асеньнюю пасеўную кампанію 1930 г.

Улічваючы вялікае значэньне ўборачнае і асеньняе пасеўнае кампаніі для далейшага разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі БССР, сацыялістычнае рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і вырашэньня з посьпехам праблемы забясьпечаньня рабочых мас прадуктамі харчаваньня, СНК БССР адзначае, што асноўнымі задачамі ўборачнае і асеньняе пасеўнае кампаніі зьяўляецца:

а) усямернае замацаваньне дасягнутых посьпехаў у калектывізацыі сельскае гаспадаркі праз практычную арганізацыйную работу па ўнутраным будаўніцтве калгасаў, рацыянальную арганізацыю ў іх працы, увядзеньне палепшанай гаспадарчай тэхнікі і ўстанаўленьне правільных узаемаадносін унутры калгасаў з уцягненьнем у гаспадарчае кіраўніцтва найбольш адданых калгаснаму руху і спрактыкаваных у сельскай гаспадарцы працаўнікоў;

б) далейшае разьвіцьцё калектывізацыі на падставе поўнае дабраахвотнасьці праз шырока разгорнутую арганізацыйную і тлумачальную работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі;

в) арганізацыя простых вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў (спэцыялізаваныя вытворча-збытавыя таварыствы) і далейшае каапэраваньне бядняцка-сярадняцкіх гаспадарак з уцягненьнем у вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні тых сялянскіх двароў, якія яшчэ не ўвайшлі ў калгасы;

г) павялічэньне саўгаснага будаўніцтва і ўзмацненьне рэарганізаваных і спэцыялізаваных савецкіх гаспадарак;

д) падвышэньне ўраджайнасьці і таварнае сельскагаспадарчае прадукцыі ў калектыўным і ў індывідуальным сэктары сельскае гаспадаркі, з адначасовым палепшаньнем якасьці і зьніжэньнем сабекошту сельскагаспадарчае прадукцыі.

Бяручы пад увагу пералічаныя вышэй асноўныя задачы асеньняе пасеўнае кампаніі, СНК БССР пастанаўляе:

1. Пашырэньне пасеўнае плошчы пад азімымі культурамі вызначыць у 55 тыс *га* з засевам у 1930 г. 1.418 тыс. *га* ў параўнаньні з 1.363 тыс. *га* ў леташнім годзе, з якіх 10,2 тыс. *га* ў савецкіх гаспадарках, адначасова забясьпечыўшы падвышэньне ўраджайнасьці на 6—8 проц. у параўнаньні з леташнім годам, для чаго зацьвердзіць наступны комплекс мерапрыемстваў пры правядзеньні асеньняе пасеўнае кампаніі;

а) засеяць азімымі на палепшаным папары плошчу 75 тыс. *га*, з якіх у савецкіх гаспадарках—10 тыс. *га* і калгасах—100 тыс. *га*;

б) засеяць гатунковым насеньнем 96 тыс. *га* азімага кліну ў калгасах і 10 тыс. *га* ў савецкіх гаспадарках, скарыстаць мясцовыя гатунковыя насенныя фонды савецкіх гаспадарак і калгасаў і завесьці ў БССР 4.600 т. азімага жыта і 200 тон азімае пшаніцы з іншых раёнаў Саюзу, аб чым Народны Камісарыят Земляробства і Народны Камісарыят Гандлю павінны падняць пытаньне перад адпаведнымі Саюзнымі органамі;

в) ачысьціць насеньне ў савецкіх гаспадарках і калгасах на 100 проц. і ў індывідуальных гаспадарках ня менш, як на 90%, пры чым ня менш 40 проц. насеньня павінна быць прапушчана праз трыеры ў індывідуальным сэктары і ўсё 100 проц. у савецкіх гаспадарках і калгасах;

г) пратруціць насеньне азімае пшаніцы на 100 проц. ад агульнае колькасьці засеву ва ўсіх сэктарах;

д) правесьці радавы засеў на плошчы 100 тыс. *га*, у тым ліку ў калгасах 70 тыс. *га*, у савецкіх гаспадарках 10 тыс. *га* і ў вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньнях—20 тыс. *га*, пры дапамозе савецкіх гаспадарак і калгасаў машынамі;

е) выканаць зяблевую заворку на плошчы ня менш 50 проц. ад яравога кліну і пажыўнае лушчэньне на плошчы 45 тыс. *га* ў калгасах і 10 тыс. *га* ў савецкіх гаспадарках, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на пад'ём з восені цалінных зямель, за кошт якіх намячаецца пашырэньне яравое пасеўнае плошчы ў 1931 годзе;

ж) завапнаваць глебу паводле гадовага пляну на плошчы 75 тыс. *га*, у тым ліку ў савецкіх гаспадарках—8 тыс. *га*, у калгасах—57 тыс. *га* і ў індывідуальных гаспадарках—10 тыс. *га*, забясьпечыўшы выкананьне гэтага заданьня бесьперабойнаю загатоўкаю вапны і рацыяналізацыю ўжываньня яе, а таксама шырока растлумачыць агранамічныя мерапрыемствы сярод шырокіх мас працоўнага сялянства;

з) забясьпечыць выкананьне поўнасьцю гадовага пляну тарпаваньняў на плошчы 40 тыс. *га* і збор попелу на ўгнаеньне ў колькасьці 33 тыс. тон, захаваўшы сабраны попел у асеньнюю пасеўную кампанію да вясны 1931 году пад яравыя культуры;

і) прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства даць паказаньні мясцовым зямельным органам пра дармовае выдзяленьне, дзе гэта патрэбна і магчыма, на адзін сэзон выганаў з вольных дзяржаўных зямель для

калгасаў і зямельных аб'яднаньняў, якія робяць раньні ўздым папару.

2. Для сваячасовага выкананьня сельскагаспадарчых работ у пэрыяд зборачнае і пасеўнае кампаніі прапанаваць Белкалгасцэнтру і Белсельтрэсту ўжыць рашучыя захады для рацыянальнага скарыстаньня трактароў, прадугледзеўшы забясьпечаньне іх запаснымі часткамі, рамонтам, гаручым і змазачным матэрыялам, а таксама падборам належных кадраў.

3. Улічваючы тое, што машына-конныя станцыі ва ўмовах БССР маюць вялікае значэньне для поўнага скарыстаньня сельскагаспадарчага інвэнтару ў савецкіх гаспадарках і калгасах, даручыць калгасна-каапэрацыйнай сыстэме і саўгастрэстам арганізаваць машына-конныя станцыі, беручы кірунак ня толькі на абслугоўваньне савецкіх гаспадарак і калгасаў, але і на вакольных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на дагавору.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белкалгасцэнтру прапрацаваць палажэньне пра машына-конныя станцыі і не пазьней, як праз два тыдні, падаць на зацьверджаньне Эканамічнае Нарады.

4. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства зьвярнуцца да Трактарацэнтру з хадайніцтвам аб арганізацыі ім да ўборачнае і асеньняе пасеўнае кампаніі ўсіх намечаных у БССР плянам 1929-30 году машына-трактарных станцый.

5. Для забясьпечаньня конскаю цягаваю сілаю калгасаў, галоўным чынам, арганізаваных з батрацкіх і бясконных местачковых гаспадарак, прапанаваць Белмалжывёлсаюзу закупіць на сродкі, якія ўжо ёсьць на гэтую мэту, коняй, і перадаць іх калгасам да пачатку ўборачнае і асеньняе пасеўнае кампаніі.

6. Прапанаваць каапэрацыйным арганізацыям і Белкалгасцэнтру арганізаваць не пазьней 15 чэрвеня ўборачныя і малацільныя брыгады для забясьпечаньня поўнага скарыстаньня машын з тым, каб пасьля выкананьня работ у калгасах брыгады дапамаглі зьбіраць ураджай бядняцка-серадняцкім гаспадаркам.

7. Паставіць перад сельскагаспарчымі трэстамі Белкалгасцэнтрам задачу арганізаваць у пэрыяд уборачнае і пасеўнае кампаніі шырокую дапамогу бядняцкім гаспадаркам, даючы ім машыны, цягавую сілу і насеньне.

Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства скласьці канкрэтны плян дапамогі бядняцкім гаспадаркам уборачнае і пасеўнае кампаніі; адначасова ўжыць захады да шырокага прыцягненьня саміх сялянскіх мас да вытворчае дапамогі беднаце праз ажыўленьне і ўзмацненьне дзейнасьці камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

8. Прапанаваць Белсельгасзабу сваячасова прывезьці сельскагаспадарчыя машыны і прылады да асеньняе пасеўнае кампаніі, вызначыўшы канчатковы тэрмін для прывозу ўборачных машын 25 чэрвеня, а для іншых машын—1 жніўня.

9. Прапанаваць Белкалгасцэнтру, Белсельтрэсту, Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварыстваў узаемнае дапамогі неадкладна распачаць рамонт зборачных машын з тым, каб поўны рамонт уборачных машын скончыць да 1 ліпеня, для чаго прапанаваць Белсельгасзабу забясьпечыць майстэрні мэталям, абсталяваньнем і запаснымі часткамі.

10. Прапанаваць Белкалгасцэнтру сваячасова арганізаваць у калгасах насенныя фонды для поўнага забясьпечаньня засеву калгаснага азімага кліну ачышчаным і адсартаваным насеньнем.

Цэнтральны Камітэт сялянскіх таварыстваў узаемнае дапамогі павінен ужыць усе магчымыя захады, каб забясьпечыць азімым насеньнем бядняцкія гаспадаркі, якія не ўвайшлі ў калгасы.

11. Зьвярнуць увагу акруговых выканаўчых камітэтаў на патрэбу рашучага ўзмацненьня мерапрыемстваў для вырашэньня кармовага пытаньня, у паасобку для ўкараненьня ў практыку сельскае гаспадаркі сіласаваньня кармоў, падрыхтоўкі плошчы для сілосных культур будучага году, а таксама палепшаньня лугоў і пашаў.

12. Агульны аб'ём мерапрыемстваў па сіласаваньні вызначыць у 1 млн. тон сіласаваных кармоў. Калі ня будзе атрымана ад Народнага Камісарыяту Земляробства СССР патрэбная колькасьць сілосных вежаў, дык Народны Камісарыят Земляробства БССР павінен падрыхтавацца да замены вежаў сілоснымі ямамі і траншэямі.

13. Паверхнявае і карэннае палепшаньне сенажацяй зрабіць на плошчы, прадугледжанай гадовым плянам Народнага Камісарыяту Земляробства ў 287 тыс. *га* паверхнявага і 40 тыс. *га* карэннага.

14. У галіне садоўніцтва пасадзіць новых садоў прамысловага значэньня на плошчы 4 тыс. *га*, у тым ліку 500 *га* ў савецкіх гаспадарках і 3.500 *га* ў калгасах. Разам з гэтым падрыхтаваць у садова-гародных базах плошчы для закладкі матачных множнікаў і выхавальнікаў саджанцоў ягадных расьлін з разьліку штогадовае пасадкі ягадных плянтацый на плошчы 2.500 *га*.

15. Прапанаваць акруговым выканаўчым камітэтам ужо з восені г. г. распачаць вышуканьне ўдобных зямель і падрыхтоўку глебы для разгортваньня прамысловага гароднііцтва ў 1931 г. на плошчы 2 тыс. *га* па лініі ЦРК, 2 тыс. *га*—па лініі савецкіх гаспадарак і 10 тыс. *га*—па ліні калгасаў.

16. Лічачы вельмі важным для ўздыму сельскае гаспадаркі выкананьне мерапрыемстваў, прадугледжаных агразаамінімумам, прапанаваць акруговым выканаўчым камітэтам арганізаваць кантроль і праверку правядзеньня яго на мясцох і сваячасова зрабіць скідкі з сельска-гаспадарчага падатку за правядзеньне агра-заамерапрыемстваў.

17. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Гандлю, Белпаляводсаюзу і акруговым выканаўчым камітэтам распачаць пасьля скан-

чэньня асеньняе сяўбы контрактацыю азімых на падставах, зацьверджаных Эканамічнаю Нарадаю, зьвярнуўшы ўвагу на выкананьне агрмінімуму пры контрактацыі асабліва гатунковых культур.

18. Для забясьпечаньня поўнага выкананьня паказаных вышэй пляпаў прапанаваць акруговым і раённым выканаўчым камітэтам разьмеры пасеўнае плошчы і мерапрыемствы, паказаныя вышэй, давесьці да кожнага сяла савецкае гаспадаркі калгасу і асобнага сялянскага двара не пазьней 15 чэрвеня г.г., абмеркаваўшы ўсе пытаньні на шырокіх вытворчых нарадах ў калектыўных і савецкіх гаспадарках, прэзыдыумах і пленумах сельскіх саветаў і шырокіх сходах бядняцка-серадняцкіх мас. Пры правядзеньні кампаніі прапанаваць адпаведным арганізацыям шырока разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва як паміж раёнамі, савецкімі гаспадаркамі і калгасамі, так і ўнутры саміх гаспадарак.

19. Прапанаваць Калгасбанку вызначаныя ў пляне зборачнае і пасеўнае кампаніі мерапрыемствы забясьпечыць адпаведнымі крэдытамі, грунтуючыся на мажлівасьцях крэдытнага пляну фінансаваньня сельскае гаспадаркі.

20. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белдзяржвыдавецтву своечасна выдаць адпаведную літаратуру да асеньняе пасеўнае кампаніі і ўборку хлябоў і прасунуць яе да чытача. Цэнтральнаму і мясцоваму пэрыядычнаму друку неадкладна папулярызаваць задачы і мерапрыемствы ўборачнае і асеньняе сельска-гаспадарчае кампаніі з выяўленьнем ўсіх недахопаў у падрыхтоўцы да яе.

21. Ускласьці на Эканамічную нараду агульнае, а на Народны Камісарыят Земляробства апэрацыйнае кіраваньне зборачнай і васеньняй пасеўнай кампаніяй 1930 году.

Старшыня Савету Народных
Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік справамі Савету Народных
Камісараў і Эканамічнае Нарады БССР
**М. Калевіч.**

г. Менск,
7 чэрвеня 1930 г.

---

# ПАСТАНОВА

## Калегіі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

## АБ СІЛАСАВАНЬНІ КАРМОЎ.

10 чэрвеня 1930 г.

Па інформацыі аб ходзе працы па правядзеньню мерапрыемстваў па сіласаваньню кармоў, Калегія НКЗему АДЗНАЧАЕ:

1. Пасеў сілосных культур па калгасам выканан па становішчу на 30-е мая 1930 г. толькі на 12 проц. супроць заданьня і знаходзіцца пад рэальнай пагрозай зрыву.

2. Совкалгасбудам НКЗ СССР да гэтага часу ня выпрацаван стандартны тып сілосных башан і ня дана для БССР цьвёрдай лічбы вызначаных башан і сіласарэзак, а таксама недасланы красачныя чарцяжы і інструкцыі да іх для масавага распаўсюджваньня.

3. Што ня гледзячы на ўдарнасьць мерапрыемстваў па сіласаваньню кармоў АКРЗА, Белкалгасцэнтрам, Белсельтрэстам ня прыняты канкрэтныя меры да належнага разгортваньня гэтае справы.

У мэтах хутчэйшага разгортваньня мерапрыемстваў па сіласаваньню кармоў, Калегія НКЗему Бел. п а с т а н а ў л я е:

1. Стварыць пры Наркамземе, па прыкладу Пасеўбюро—Сіласнае Бюро, на якое ўскласьці ўсё апэрацыйнае кіраўніцтва ходам сіласаваньня кармоў.

У акругах і раёнах усю работу па сіласаваньню ўскласьці на Загадчыкаў Акруговых і раённых Зямельных Аддзелаў пад іх асабістую адказнасьць.

2. Даручыць загадчыкам Акруговых і Раённых Зямельных Аддзелаў разгарнуць працу па выкарыстаньню ўсіх магчымасьцяй для сіласаваньня, арганізаваўшы справу па шырокаму скарыстаньню ўсіх маючыхся саламарэзак як па асобным саўгасам і калгасам, так і па паселішчам для падрыхтоўкі сіласнай масы.

3.а) Давесьці да ведама Наркамзему Саюзу аб тым, што да гэтага часу тыпаў стандартных башан ня маецца і па маючыхся зьвестках яны яшчэ не заказаны, што пагражае зрывам справы сіласаваньня;

б) даручыць Акруговым Зямельным Аддзелам, саўгасным трэстам і каапэрацыйным цэнтрам разгарнуць працу па будаўніцтву сілосных ям і траншэй, дапушчаючы ў пасобных выпадках будаўніцтва не стандартных тыпаў сілосных установак,

в) даручыць Плянава-Эканамічнаму Сэктару разам з Белкалгасбанкам разасыгнаваць маючыся сродкі на будаўніцтва ям, траншэй і нестандартных сілосных установак, разбраніваваўшы сродкі на стандартныя башні і аформіўшы гэта тэлеграфна праз Саюз, Наркамзем і Саюзкаагасбанк.

5. Сэктару абслугоўваньня даць паказаньні АКРЗА з прапановай да 20 чэрвеня г. г. прадставіць зьвесткі аб колькасьці маючыхся па акругах саламарэзак (на складах і па гаспадарках) разам са сваімі канкрэтнымі плянамі іх поўнага скарыстаньня.

6. Белсельгасснабу і сэктару абслугоўваньня зараз-жа наладзіць працу па рамонту маючыхся саламарэзак па саўгасах і калгасах, а Белкалгасбанку даць паказаньні ў нізоўку аб выдачы крэдыту на гэту справу са сродкаў, вызначаных на мерапрыемствы па сіласаваньню кармоў.

7. Прапанаваць Белкалгасбуду ў 2-хдзенны тэрмін даць ня менш 100 экзэмпляраў чарцяжоў простых сілосных ям і траншэй з тлумачальнымі запіскамі да іх для разсылкі ў акругі і раёны.

8. Даручыць дырэктару Сьвінаводнай Станцыі Журыку С. І. скласьці спэцыяльную брашуру па тэхніцы сіласаваньня кармоў і выдаць яе не пазьней 20-га чэрвеня г. г. у 100.000 экзэмп. пад агульнай рэдакцыяй Бюро па сіласаваньню.

9. У мэтах забясьпечаньня месц інструктажам правесьці ў Менску на працягу 5-ці дзён (каля 15-га—25-га чэрвеня) Канфэрэнцыю-курсы па сіласаваньню і сіласабудаўніцтву на 100 асоб па аднэй асобе з раёну.

Сэктару Кадраў правесьці гэта мерапрыемства ў жыцьцё.

10. Адзначыць, што камсамольскімі арганізацыямі праз газэту „Чырвоная Зьмена" шырока разгорнута растлумачальная праца па сіласаваньню кармоў, але для канкрэтнай працы камсамолу на мясцох не хапае належнага інструктажу па арганізацыі справы і тэхнікі сіласаваньня кармоў.

Для большай пасьцяховасьці растлумачальнай кампаніі ўскласьці на т.т. Сьвіршчэўскага і Варкунова кансультацыю газэты „Чырвоная Зьмена" па пытаньню сіласаваньня кармоў, а таксама і асьвятленьня гэтага пытаньня ў іншых цэнтральных газэтах.

11. Шырока апавясьціць калгасы і беднацка-серадняцкае сялянства аб тым, што гаспадаркам або паселішчам, якія выканаюць заданьне па сіласаваньню кармоў, у наступным годзе ў парадку контрактацыі малака ў першую чаргу будуць адпушчаны канцэнтраваныя кармы.

Плянава-Эканамічнаму Сэктару гэтае пытаньне з Наркамгандлем узгадніць.

12. Пастанову гэту апублікаваць у друку.

## ДА РАЁННЫХ ІНСПЭКТАРОЎ НАРАСЬВЕТЫ

Некаторыя раёны зрабілі падпіску для школ толькі да 1 ліпеня. Рэдакцыя робіць напамін інспэктаром гэтых раёнаў, каб яны патурбаваліся працягнуць падпіску на часопіс **„Шляхі Калектывізацыі"** для школ свайго раёну на другое паўгодзьдзе.

Рэдакцыя чакае заказу і ад тых, якія да гэтага часу ня выпісалі часопісу **„Шляхі Калектывізацыі"** для сваіх школ.

## ДА УПАЎНАВАЖАНЫХ ПА ЗБОРУ ПАДПІСКІ НА ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"

Рэдакцыя робіць напамін, што тэрмін на частку сабранае Вамі падпіскі канчаецца 1 ліпеня—

**ПАТУРБУЙЦЕСЯ ПРАЦЯГНУЦЬ ПАДПІСКУ НАДАЛЕЙ.**

У некаторых-жа раёнах упаўнаважаныя зусім мала сабралі падпісак—**ПАДЦЯГНЕЦЕСЯ, ТАВАРЫШЫ!**

Адказны рэдактар—П. Рачыцкі. Рэдактар—Рэдкалегія.



**ЦАНА 20 КАП.**





ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Часопіс сацыялістычнага земляробства і агранамізацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

ЧАСОПІС

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.**

ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікоў калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | | |
|---|---|---|
| На год | . . . . | 2 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў | . . . | 1 р. 10 к. |
| На 3 м-цы | . . . | 60 к. |
| Паасобны нумар | . | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б**

**Тэлефон 17-15.**

Менск, друк. БДВ. Зак. № 2042. 12.000. (2³/₄ арк.) Галоўлітбел № 2209.